ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 1 (2632) • Пятніца, 5 студзеня 1973 года • Цана 8 кап.



## УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

## АБ УЗНАГАРОДЖАННІ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБАІКІ ОРДЭНАМ ДРУЖБЫ НАРОДАЎ

За вялікія заслугі працоўных Беларускай ССР ва ўтварэнні і ўмацаванні Саюза ССР, ва ўмацаванні дружбы і брацкага супрацоўніцтва сацыялістычных нацый і народнасцей, за вялікі ўклад у эканамічнае, сацыяльна-палітычнае і культурнае развіццё Савецкай дзяржавы і ў азнаменаванне 50-годдзя Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік узнагародзіць БЕЛАРУСКУЮ САВЕЦКУЮ САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ РЭСПУБЛІКУ ордэнам ДРУЖБЫ НАРОДАЎ.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ПАДГОРНЫ.
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.

Масква, Крэмль. 29 снежня 1972 года.

ленінскіх ідэй раўнапраўя народаў, мірнага суіснавання дзяржаў з розным грамадскім ладам. Гэта — ясная, прынцыповая палітыка, якую падтрымліваюць усе прагрэсіўныя сілы. Яна блізкая і зразумелая найшырэйшым масам працоўных, з абвешчанымі ёю мэтамі і перспектывамі, якія адкрыліся, звязваюць свае надзеі і спадзяванні ўсе народы планеты. Савецкі Саюз і ў далейшым будзе няўхільна праводзіць лінію на аздараўленне міжнароднага становішча, на ўмацаванне ўсеагульнага міру і бяспекі народаў.

Таварышы!

На неабсяжных прасторах нашай Радзімы кіпіць напружаная стваральная праца. Савецкія людзі ўсіх нацыянальнасцей ажыццяўляюць гістарычныя рашэнні XXIV з'езда КПСС. Намечаная з'ездам праграма далейшага эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця краіны, павышэння народнага дабрабыту натхняе працоўных на новыя здзяйсненні, абуджае ў іх вялікую творчую энергію. Ажыццяўленне намечанай XXIV з'ездам Праграмы міру прыносіць адчувальныя вынікі, садзейнічае стварэнню спрыяльных знешніх умоў камуністычнага будаўніцтва.

Наперадзе новыя гарызонты, новыя задачы. Краіна ўступае ў трэці, рашаючы год дзевятай пяцігодкі. Патрыятычны абавязак усіх працоўных нашай Радзімы— нястомна змагацца за паспяховае выкананне намечаных планаў, быць у радах актыўных удзельнікаў усенароднага сацыялістычнага спаборніцтва. Новы, 1973-ці год павінен стаць годам ударнай работы на ўсіх участках гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Мы ўпэўнена глядзім у будучыню. Мы ведаем, што ідзём правільнай ленінскай дарогай і здзейснім усё задуманае, ажыццёвім усе прадвызначэнні партыі.

Цэнтральны Камітэт КПСС, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савет Міністраў СССР звяртаюцца

— да вас, гераічныя працаўнікі савецкай індустрыі і сельскай гаспадаркі, дзеячы навукі і культуры, тварцы ўсіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей нашага грамадства;

— да вас, савецкія жанчыны, якія здабылі ўсеагульную ўдзячнасць сваёй вялікай працавітасцю, чуласцю і дабратой, мацярынскімі клопатамі аб падрастаючых пакаленнях;

— да вас, юнакі і дзяўчаты, дастойныя пераемнікі і прадаўжальнікі рэвалюцыйнай справы бацькоў, інтэрнацыяналісцкіх, баявых і працоўных традыцый савецкага народа;

— да вас, доблесныя воіны Савецкіх Узброеных Сіл, якія стаяць на варце нашай вялікай шматнацыянальнай дзяржавы, міру і сацыялізму;

— да ўсіх савецкіх людзей—рускіх і ўкраінцаў, беларусаў і ўзбекаў, казахаў і грузінаў, азербайджанцаў і літоўцаў, малдаван і латышоў, кіргізаў і таджыкаў, армян, туркменаў і эстонцаў, да працоўных аўтаномных рэспублік і абласцей, нацыянальных акруг, усіх нацыянальнасцей нашай краіны.

Ад нашых штодзённых намаганняў, арганізаванасці і дысцыпліны залежаць тэмпы эканамічнага развіцця, стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камуністычнага грамадства, умацаванне абароннай магутнасці краіны. З яшчэ большай рэвалюцыйнай энергіяй і дзелавітасцю будзем ажыццяўляць ленінскі запавет: камунізм можа быць пабудаваны толькі самаадданай працай на аснове сучаснай тэхнікі, навукі і адукацыі.

Настойлівае ўкараненне ў прамысловую і сельскагаспадарчую вытворчасць дасягненняў навукі і тэхнікі, рост прадукцыйнасці працы — вось абавязковыя ўмовы нашага паскоранага руху наперад, павышэння матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа. Цяпер як ніколі ад кожнага з нас патрабуецца высокая свядомасць і адказнасць. Чым больш эфектыўны працоўны ўклад кожнага работніка, кожнага вытворчага калектыву, чым большых поспехаў даб'ецца кожная рэспубліка, тым багацейшай і мацнейшай будзе наша саюзная дзяржава, тым прыгажэйшым стане жыццё ўсіх савецкіх людзей.

Узрастаючая сацыяльна-палітычная актыўнасць рабочага класа, мільённых мас працоўных, усебаковае развіццё асобы чалавека працы, сапраўднага гаспадара краіны — галоўны фактар далейшага ўдасканалення сацыялістычных грамадскіх адносін, развіцця савецкай дэмакратыі і ўмацавання нашай саюзнай агульнанароднай дзяржавы.

Будзем жа нястомна ўмацоўваць прынцыпы і нормы сацыялістычнага дэмакратызму, савецкага спосабу жыцця, камуністычнай маралі, ажыццяўляць ленінскі ідэал новага чалавека!

Дарагія таварышы, сябры! Усе мы, у якой бы савецкай рэспубліцы ні жылі, на якіх бы мовах ні гаварылі,—дзеці адной маці-Радзімы—Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У нас агульны гістарычны лёс рэвалюцыйных барацьбітоў за ўладу Саветаў, за свабоду і незалежнасць Айчыны, будаўнікоў сацыялізму і камунізму. У нас адзіныя мэты і ідэалы, вялікая агульная справа. Усё, што створана на савецкай зямлі,—цудоўныя гарады, сучасныя фабрыкі і заводы, магутныя электрастанцыі, буйныя сучасныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы — калгасы і саўгасы, духоўныя каштоўнасці сацыялістычнай культуры,—усё гэта плён нашай сумеснай працы, гэта наш агульны здабытак. Вялікае вучэнне марксізму-ленінізму дало нам волатаўскую сілу, раскрыла шляхі пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва, інтэрнацыянальнага згуртавання працоўных у стварэнні новага, камуністычнага свету.

Будзем жа і ў далейшым мацаваць наша інтэрнацыянальнае брацтва, як зрэнку вока берагчы і развіваць вялікую ленінскую дружбу народаў — каштоўнейшую заваёву рэвалюцыі, крыніцу нашай сілы і залог будучых перамог!

Мы — непадзельны савецкі народ, і няма такіх сіл, якія маглі б спыніць наша пераможнае шэсце наперад, няма такіх стваральных задач, якія былі б непадуладныя нашай дружнай рабоце, нашай агульнай волі.

Парукай таму — сацыялістычная інтэрнацыянальная ідэалогія, якая авалодала народнымі масамі, наша сумесная барацьба за ажыццяўленне ідэалаў камунізму. Парукай таму—сацыяльна-палітычнае і ідэйнае адзінства савецкага народа, згуртаванасць рабочага класа, калгаснага сялянства, працоўнай інтэлігенцыі, усёй дружнай сям'і нацый і народнасцей СССР вакол Камуністычнай партыі. Усямерна ўмацоўваць і расшыраць сувязі партыі з масамі—такі запавет пакінуў нам вялікі Ленін, і партыя верная гэтаму ленінскаму запавету. Узброеная ўсёпераможнай тэорыяй навуковага камунізму, багацейшым палітычным вопытам, наша партыя ўпэўнена пракладвае шлях у будучыню.

Адзінай дружнай сям'ёй мы пабудавалі развітае сацыялістычнае грамадства.

Адзінай дружнай сям'ёй мы будуем і пабудуем камунізм!

Няхай жыве непарушная брацкая дружба народаў нашай краіны!

Няхай працвітае і мацнее наша вялікая шматнацыянальная Айчына — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік!

Слава Камуністычнай партыі Савецкага Саюза—баявому авангарду рабочага класа і ўсіх працоўных, правадыру народа ў барацьбе за камунізм!

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА**

**ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА САЮЗА САВЕЦКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК**

**САВЕТ МІНІСТРАЎ СССР**

30 снежня 1972 года.

---

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ*

# НАТХНЯЮЧАЯ ПАДЗЕЯ

На сцягу нашай рэспублікі заззяў яшчэ адзін ордэн — Дружбы народаў. Беларусь на працягу паўстагоддзя разам з народамі ўсяго вялікага Савецкага Саюза пераможна ідзе наперад. Інтэрнацыянальнае брацтва наша непарыўнае, адзінства партыі і народа — непарушнае і жыватворнае. Ленінскія ідэі паказалі народу шырокі шлях у будучыню, сталі рухаючай сілай нашага развіцця. Рэспубліка выйшла ў рады перадавых краін з высакаразвітай прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, з багатай культурай і літаратурай.

Пяцьдзесят год таму назад народны паэт Беларусі Янка Купала пісаў:

*Ужо выбіла часіна*
*На вялікую прыгоду*
*Выйсці з мутнай каляіны*
*Беларускаму народу.*

Народ адправіў у нябыт драўляную барану і саху, разарваў павуцінне межаў, аб'яднаўся ў калгасы, пабудаваў велічныя фабрыкі і заводы, у нетрах зямлі знайшоў незлічоныя багацці: нафту, калійную соль. Тое, што пяцьдзесят год назад здавалася казкай, стала явай. На заводах Беларусі вырабляюцца трактары і камбайны, аўтамашыны, электронна-вылічальныя машыны, станкі высокай дакладнасці.

Пісьменнікі і паэты, вучоныя і інжынеры, навуковыя супрацоўнікі нашай рэспублікі ідуць у перадавой кагорце народаў Савецкага Саюза.

Ордэн Дружбы народаў — вялікая, заслужаная ўзнагарода народу рэспублікі. Яна натхняе і заклікае нас ісці няспынна наперад, быць актыўнымі будаўнікамі шчаслівага сёння і велічнага заўтра.

Пісьменніку выпала высакародная задача — праўдзіва адлюстраваць у высокамастацкіх творах веліч нашага непарушнага Саюза, мужнасць і творчую сілу нашых людзей, расказаць пра нашу ўсепераможную еднасць. Гэта — пачэсная задача, і яна нам па плячы.

## ЗАРУБЕЖНЫЯ ГАСТРОЛІ САМАДЗЕЙНЫХ КАЛЕКТЫВАЎ

З паездкі па Югаславіі вярнуўся ансамбль песні і танца «Брастаўчанка».

Па запрашэнню Таварыства югаслаўска-савецкай дружбы калектыў у складзе 42 чалавек гасцяваў там больш дзесяці дзён і даў канцэрты у дзесяці гарадах, у тым ліку ў Белградзе. У праграме выступленняў былі танцы народаў СССР.

Крыху раней на радзіму з зарубежнай паездкі вярнуўся яшчэ адзін ансамбль з Брэста. «Радасць» гасцявала ў шахцёраў, студэнтаў, хімікаў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

## СПЕКТАКЛІ ДЛЯ РАБОЧЫХ

У Беларускім Дзяржаўным тэатры оперы і балета прайшоў тыдзень «Майстры мастацтва — перадавікам вытворчасці прамысловых прадпрыемстваў Мінска». У спектаклях выступілі вядучыя салісты оперных тэатраў братніх рэспублік. Сярод іх — народны артыст Латвійскай ССР К. Зарынь і салістка Ленінградскага опернага тэатра імя С. М. Кірава народная артыстка РСФСР В. Максімава, народная артыстка Малдаўскай ССР Т. Алёшына і салістка Кіеўскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя Т. Шаўчэнкі лаўрэат міжнароднага конкурсу Г. Цыпола, заслужаны артыст РСФСР В. Волкаў і заслужаны артыст Эстонскай ССР У. Таўць, саліст Саратаўскага опернага тэатра імя Чарнышэўскага В. Шчарбакоў і іншыя.

У спектаклях таксама прынялі ўдзел народная артыстка БССР Т. Шымко, заслужаныя артысты БССР В. Кірычэнка, А. Саўчанка і іншыя салісты тэатра.

## *СУСТРЭЧА З ПАМЯЦЦЮ*

«Сустрэча з памяццю», «Клянёмся», «Прысяга», «Брэст, 1941», «Каземат Гаўрылава», «Ля крэпасці» — так названы работы мастакоў Брэста, якія экспануюцца зараз у гарадскім мастацкім салоне. Большасць работ, як відаць з пералічаных назваў, прысвечана гераічным дням абароны бессмяротнай цытадэлі і тым традыцыям, што нараджаюцца ля сцен крэпасці-героя сёння. Гэта работы П. Данелія, Ул. Нікалаева, М. Дударава, І. Ламакіна, І. Траццякова, І. Клімава.

Тэма стваральнай працы дзён сённяшніх перададзена ў работах В. Рамейкі.

Варта адзначыць, што разам з прафесійнымі мастакамі ў выстаўцы ўдзельнічаюць і народныя ўмельцы. Работа В. Сакажынскага — інкрустацыя па дрэву—ужо неаднаразова дэманстравалася на выстаўках народнай творчасці ў Манрэалі, Лондане, Токіо. Некалькі яго твораў экспануюцца і зараз на абласной выстаўцы ў Брэсце.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ

*Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за заслугі ў развіцці беларускага савецкага выяўленчага мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння старшыня праўлення Саюза мастакоў Беларускай ССР Грамыка Віктар Аляксандравіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

●

*Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за заслугі ў развіцці беларускага савецкага выяўленчага мастацтва і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння мастак Гуціеў Мікалай Цімафеевіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

●

***Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за плённую работу ў галіне беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменнік Шашкоў Аляксандр Андрэевіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.***

●

*Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за плённую работу ў галіне беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменнік Вадасаў Мікалай Міхайлавіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЎЗРОСТ...

Калі жанчынам з вёскі Далёкія было прапанавана арганізаваць гурток мастацкай самадзейнасці і выступаць з канцэртамі, яны ад душы рассмяяліся.

— Знайшлі каго! — пляснула ў далоні Таццяна Янчэўская. — Вунь колькі маладых з гітарамі ходзіць!

Але сельскі бібліятэкар Зоя Нічыпар добра ведала жыхароў вёскі, таму і запрасіла загадчыка Лідскага раённага аддзела культуры М. Грэбеня, каб разам сабраць некаторых жанчын, пагутарыць з імі. І што ж— паступова жанчыны пачалі ўспамінаць, як спявалі і танцавалі яны на вечарынках. Яны і цяпер помняць тыя песні, якія перайшлі да іх яшчэ ад матак. Разышліся ўсхваляваныя, з адной думкай — трэба выступаць.

Праз некалькі дзён Вера Атрошчанка, Таццяна Янчэўская, Любоў Саладуха і Яніна Нічыпар сабраліся на рэпетыцыю. І музыка свой знайшоўся — Іосіф Квяткоўскі. Некалі ён іграў на скрыпцы, а потым захоўваў яе як напамінак аб юнацтве. Нарэшце яна зноў спатрэбілася.

Кадрыля, якую рыхтавалі танцоркі, хутка наладзілася, «пайшла». Не было толькі ўбораў. Пачалі шукаць па ўсёй вёсцы, ці не засталося чаго ў куфрах старэйшых гаспадынь?

Выручыла Марыя Бобрык. У яе знайшліся старадаўнія сукенкі. Па іх узоры, збіраючыся вечарамі, танцоркі шылі сабе спадніцы і кофты, прыдумваючы вышыўку...

Неўзабаве адбылося першае выступленне. Калі выйшлі на сцэну палаца культуры шклозавода «Нёман», дзе праходзіў раённы агляд самадзейнага мастацтва, разгубіліся: такой вялізнай яна здалася. А іх, танцорак, усяго дзве пары. Хваляванне прайшло, калі адчулі, што гледачы захапіліся танцорамі, удзячна апладзіруючы ім.

У хуткім часе самадзейных артыстак запрасілі ў Гродна на тэлебачанне. Запісалі іх, і па ўсёй вобласці паказалі самабытных артыстак з вёскі Далёкія.

Вярнуўшыся з паездкі, жанчыны хадзілі па хатах, агітавалі сваіх равесніц, запрашалі ў свой гурток, пра якіх ужо добра ведалі аднавяскоўцы.

І сяброўкі згадзіліся. Неўзабаве на чарговую рэпетыцыю сабралося чатыры пары. Паўтаралі кадрыль. З дапамогай Зоі Нічыпар развучвалі «Лявоніху». У новым складзе і з новым танцам выступалі ў мясцовым клубе, затым на справаздачна-выбарным сходзе. Да скрыпача далучыўся баяніст Уладзімір Квач.

Усе, каму давялося прысутнічаць на выступленнях фальклорнай групы з Далёкіх, надоўга запомнілі тую шчырасць і сардэчнасць, цеплыню і непаўторнасць, што ўвогуле характэрны для самабытнага народнага мастацтва.

А. СТАДУБ.

# ДЗЯРЖАЎНЫЯ ПРЭМІІ БССР год 1972

Пастанова ЦК КП Беларусі і Савета Міністраў БССР

## АБ ПРЫСУДЖЭННІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ БССР 1972 ГОДА

### Ў ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі і Савет Міністраў БССР, разгледзеўшы прапановы Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, пастанаўляюць прысудзіць Дзяржаўныя прэміі БССР 1972 года:

**У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ**

Імя Янкі Купалы — **Кірэенку** Канстанціну Ціханавічу за зборнік вершаў «Кніга ста песень».

Імя Якуба Коласа — **Навуменку** Івану Якаўлевічу за літаратуразнаўчыя кнігі «Янка Купала. Духоўнае аблічча героя» і «Якуб Колас. Духоўнае аблічча героя».

**У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ**

**Семяняку** Юрыю Уладзіміравічу — за патрыятычныя песні, створаныя ў апошнія гады.

**У ГАЛІНЕ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА**

**Кашкурэвічу** Арсену (Арлену) Міхайлавічу — за серыю графічных лістоў «Партызаны» і серыю графічных лістоў па матывах твораў Янкі Купалы.

**У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА**

**Папову** Іосіфу Сцяпанавічу, рэжысёру, — за пастаноўку спектакляў «Жыццё ўсяго адно», «Залатая карэта», «Першы грэх» у Гомельскім абласным драматычным тэатры.

**У ГАЛІНЕ КІНЕМАТАГРАФІІ**

**Губарэвічу** Канстанціну Лявонцьевічу, сцэнарысту; Голубу Льву Уладзіміравічу, рэжысёру, — за мастацкія фільмы «Дзяўчынка шукае бацьку», «Анюціна дарога», «Паланез Агінскага»; **Масальскаму** Рыгору Ігнатавічу, аператару, — за мастацкі фільм «Паланез Агінскага».

**ЗА ТВОРЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

**Крысько** Цімафею Васільевічу (Васілю Вітку) — за кнігі «Чытанка-маляванка», «Беларуская калыханка», «Казкі».

**Фёдараву** Івану Міхайлавічу (Янку Маўру), пасмяротна, — за творы «Чалавек ідзе», «У краіне райскай птушкі», «Амок», «Сын вады», «Палескія рабінзоны», «ТВТ», «Шлях з цемры».

**Сакратар Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі**
**П. МАШЭРАЎ.**

**Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР**
**Ц. КІСЯЛЁЎ.**



## ПЕРАД НОВЫМІ КНІГАМІ

*ГУТАРКА З Кастусём КІРЭЕНКАМ*

ПРЫГАДВАЮЦЦА словы паэта: «...іду ў свой шлях устрывожаным і ўсхваляваным, непаседлівым і неспакойным, усё чуюцца мне заклікальныя і запытальныя галасы многіх і многіх дарагіх людзей, ухвалу якіх так хацелася б заслужыць...» Так пісаў Кастусь Кірэенка ў шасцідзесятыя гады, гаворачы аб сваёй творчай працы, аб імкненні напісаць у недалёкім будучым свой «самы ўдалы верш» і выдаць «самы лепшы зборнік». І вось яна, гэтая ўхвала, гэтае высокае прызнанне за цудоўную «Кнігу ста песень» — Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы...

— Як стваралася «Кніга ста песень», калі ўзнікла задума напісаць яе?

Кастусь Ціханавіч на нейкі момант задумваецца:

— Уласна кажучы, не ведаю, як больш канкрэтна адказаць на ваша пытанне... Але, бадай, не памылюся, калі скажу: ніхто з пісьменнікаў дакладна не памятае таго святога імгнення, калі ўзнікае задума новага твора, і ніхто не можа з упэўненасцю сцвярджаць, якім будзе ўрэшце рэшт гэты твор. Адно заўсёды акрэслена ясна: хочацца напісаць так, каб людзі чыталі, знаходзілі нешта для сябе знаёмае і хвалюючае.

І, безумоўна, тут не абыходзіцца без сумненняў: а ці ж зможаш з таго вялікага акіяну, што завецца жыццём народным, адабраць неабходнае, значнае, ці зможаш стварыць вобразы, якія былі б жыццёвымі і захаплялі; намаляваць іх фарбамі дастаткова яркімі і пераканаўчымі, так, каб сучаснік мог пазнаць і свой час, і сваё жыццё, і свае думы?

Урэшце, сапраўдны паэт заўсёды выказнік высокіх маральных ідэалаў свайго часу. У нашай беларускай паэзіі шмат таму прыкладаў — гэта і натхнёнае слова Янкі Купалы, і палымяная ліра Петруся Броўкі, і душэўны, шчыры голас Максіма Танка... Усім ім уласцівы найкаштоўнейшы дар глыбока і пранікнёна адлюстроўваць у паэзіі жыццё свайго народа — яго гераізм і мужнасць, працавітасць і высакароднасць, адгукацца на самыя складаныя, пякуча-надзённыя праблемы часу. Іх творчасць — узор для маладога пакалення літаратараў.

Цяпер наконт самой маёй кнігі... Пачаў пісаць яе яшчэ ў 1967 годзе. Калі не памыляюся, першыя вершы з гэтай кнігі былі напісаны ў Гайшыне, маёй роднай вёсцы, куды заўсёды імкнуся паехаць, каб сустрэцца з маці. Але ішоў да кнігі, бадай, усё свядомае жыццё... Яна — плён доўгіх назіранняў і роздуму над нашым гераічным часам, над тымі вялікімі падзеямі, сведкам і ўдзельнікам якіх мне пашчасціла быць.

Хоць пісаць і друкавацца пачаў яшчэ да вайны, але паэтам я стаў, можна сказаць, у гады вайны. Там, на фронце, моцна адчуў жывую сувязь паміж сабой і лёсам свайго народа, яго гісторыяй. Таму і чытач, відаць, прыняў мае ваенныя вершы, паверыў ім. Я выразна ўсвядоміў, якое вялікае багацце для чалавека зямля яго дзяцінства, яго баць-

## ПРЭМІЯ АБАВЯЗВАЕ

*ГУТАРКА З Іванам НАВУМЕНКАМ*



— Іван Якаўлевіч, як вы ўспрынялі вестку аб прысуджэнні Дзяржаўнай прэміі БССР?

— Прэмія, якая носіць імя вялікага Коласа, невыказна радуе мяне і заклікае да новай самаадданай працы. Шчыра ўдзячны роднай партыі, ураду за вялікі клопат аб нашай літаратуры.

— Вашы даследаванні творчасці Я. Купалы і Я. Коласа шырока вядомы літаратурнай грамадскасці. А што вас цікавіць цяпер?

— Мінулы год прайшоў пад знакам купалаўскага і коласаўскага юбілеяў, і мне як аўтару манаграфій пра двух нашых вялікіх паэтаў прыйшлося напісаць пра іх даволі значную колькасць артыкулаў, выступаць з дакладамі і г. д. Думка працягваць даследаванне купалаўскай і коласаўскай творчасці мяне не пакідае. Таму, папершае, што я выкладчык беларускай літаратуры і сабраў некаторы запас назіранняў, які патрабуе выйсця. Па-другое, творчасць Купалы і Коласа, як мне здаецца, моцна супрацьстаіць некаторым модным павевам з Захаду, і разгляд творчасці нашых класікаў мае прынцыповае, актуальнае значэнне.

Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая прымусіла мяне ўзяцца за купалаўскую і коласаўскую тэму. Класікі пісалі добра. Наша сённяшняя літаратура пры ўсіх яе бясспрэчных дасягненнях і ўзлётах усё ж павінна ў іх вучыцца. У Коласа, напрыклад, у лепшых яго творах свеціцца кожнае слова, несучы не толькі, калі карыстацца сённяшняй тэрміналогіяй, непасрэдную інфармацыю, але і глыбінны падтэкст, мноства мастацкіх значэнняў, настрой і г. д. Таму хочацца напісаць кнігу «Стыль Якуба Коласа», у якой прасачыць не толькі мастацкую манеру самога Коласа, а крануць па меры сіл усе лепшыя мастацкія заваёвы беларускай прозы. Патрошкі над гэтай кнігай думаю і збіраю матэрыял.

— А планы ў мастацкай творчасці?

— У мінулым годзе працаваў над раманам «Сорак трэці», якім завершыцца трылогія, распачатая кнігамі «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах». У чарнавым варыянце раман амаль закончаны. Але паколькі завяршэнне агульнай будовы выяўляе і некаторыя яе недахопы, пралікі, то праца будзе працягвацца і над першымі кнігамі. Прыйдзецца дапісаць ці перанесці некаторыя раздзелы з другой кнігі ў першую, даць большае жыццё паасобным героям, пачынаючы з першай кнігі.

Цешу сябе надзеяй, што ў бягучым годзе знайду час, каб напісаць хоць адну з вынашаных аповесцей аб сучаснасці.

## «СЛУЖЫЦЬ ДЗЕЦЯМ — ВЯЛІКАЕ ШЧАСЦЕ...»

*ГУТАРКА З Васілём ВІТКАМ*

СКАЗАЦЬ па-шчырасці, прызнанне Васіля Віткі на пачатку нашай размовы ў тым, што для дзяцей раней пісаць ён і не збіраўся, крыху збянтэжыла. Сапраўды, сёння нават цяжка ўявіць беларускую дзіцячую літаратуру без «Вавёрчынага гора», «Буслінага лета», «Казкі пра цара Зубра», «Азбукі Васі Вясёлкіна», без «Беларускай калыханкі» і «Чытанкі-маляванкі».

— Цімох Васільевіч, а як быў напісаны Ваш першы твор для дзяцей?

— Можна сказаць, выпадкова. Пасля вайны з сынам мы паехалі ў маю родную вёску Еўлічы, што на Случчыне. Які транспарт тады.. На Слуцк дабіраліся цягніком.. У Асіповічах цэлую ноч прастаялі. А потым пехатою пятнаццаць кіламетраў. Сын малы, восем гадоў. Стаміўся і ўсё просіць казкі расказваць. Здаецца, усе, якія ведаў, пераказаў, а яму новых хочацца. Дай, думаю, сам складу. Пра што? Пра вавёрачку. А калі пра вавёрачку, дык і пра зубкі, якія ў яе баляць. Гляджу, спадабалася сыну...

— Значыць, так і з'явілася «Вавёрчына гора»?

— Не. Гэтую гісторыю я спачатку ў прозе расказаў. І яна не толькі сыну, але і суседскім дзецям спадабалася. Захацелася яе вершам пераказаць. Забраўся на вышкі (так у нас гарышча называецца), каб ніхто не замінаў. За тры дні казка і была гатова. Потым ужо ў Мінску да Маўра зайшоў. «Я, дзядзька Янка,— кажу,—вам казку прынёс». Іван Міхайлавіч скупы на словы быў, а тут спадабалася, ухваліў яе. А потым «Вавёрчына гора» ў «Полымі» было надрукавана. А наступную казку, «Буслінае лета», я толькі праз дзесяць гадоў напісаў.

— Канечне, пра элементы аўтабіяграфічнасці ў казках наўрад ці можна гаварыць. І ўсё-такі, Цімох Васільевіч, «Вавёрчына гора» было падказана самімі абставінамі...

— Безумоўна. Вось вас цікавіць казка «Буслінае лета». Мне і цяпер помніцца старая буслянка, якая была ў Еўлічах на аселіцы вёскі. Усё лета вяліся там буслы. Калі пісаў казку, у думках перанёсся ў сваё маленства. Так і з'явілася гэтая гісторыя.

— Цімох Васільевіч, вашы казкі з цікавасцю чытае ўжо не адно пакаленне дзяцей. А вось «Чытанка-маляванка» выдадзена толькі летась. Прызнацца па-праўдзе, і дарослым не шкодзіла б часцей у яе заглядваць, асабліва маладым бацькам...

— Работа для дзяцей заўсёды нясе нямала сапраўднай уцехі. Хацелася даўно стварыць кнігу, якая б увабрала ў сябе шырокае кола дзіцячых інтарэсаў, і яшчэ—паказаць дзіцяці багацце і музыку народнага слова. У калыханках, загадках, ва ўсіх гэтых пацешках я шукаў тую веру ў чарадзейнае слова, якая вельмі ўласціва маленству. Якой атрымалася кніжка, лепш судзіць маім чытачам. А мне радасна над ёй працавалася. Гэта не высокія словы, але служыць дзецям — вялікае шчасце.

— А вось «Беларуская калыханка» як з'явілася? Яна ж адрасуецца ўжо старэйшаму ўзросту.

— Такая ўзроставая градацыя ў маіх творах не выпадковая. Я свядома пісаў творы, якія б дзеці маглі чытаць ад свайго маленства да станаўлення. Праўда, у стварэнні іх атрымалася наадварот. Для самых маленькіх «Чытанку-маляванку» я напісаў у апошні час. У «Беларускай калыханцы» галоўны вобраз — вобраз маці. Любоў да маці — гэта і этычная выснова выхавання. Хацелася

коў. І яна не магла не выліцца, гэтая бязмежная любоў да Радзімы, у паэтычныя радкі і тады, у тыя суровыя дні выпрабаванняў, і сёння, калі душа радуецца нашаму шчасліваму мірнаму дню, нашым дасягненням.

Крытыка адзначала антываенную накіраванасць «Кнігі ста песень». І гэта натуральна. Бо ці ж мог я, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, звычайны чалавек, які бачыў, перажыў душою суровыя, грозныя выпрабаванні народа, не сказаць свайго ўсхваляванага сыноўняга слова ў абарону міру? Ці ж мог я забыць пра тых сваіх франтавых таварышаў, якія аддалі жыццё на палях бітвы за Радзіму?

**Сябры, вы, што ў паходзе ўпалі,**
**Нат не сказаўшы і «бывай», —**
**Ах, каб вы зналі, колькі жалю**
**Нашу ў душы сваёй па вас.**
**Ах, каб вы ведалі, як горна**
**За вас, бязмоўных, лёс судзіць!**

На твары паэта — глыбокі смутак, задуменнасць у ягоных крышку стомленых вачах. Ён — прыгадвае. Ён пераносіцца думкамі ў той незваротны час... Якіх толькі шэсць радкоў, пазначаных мудрасцю сталага таленту, а перад вамі паўстаюць ужо і лёс людзей, і рысы эпохі... Незвычайна хвалююць аўтарскія адносіны да чалавека — верш прасякнуты вострым адчуваннем страты і высокім разуменнем адказнасці перад памяццю франтавых сяброў за сённяшні наш дзень.

— Так, каб справядліва меркаваць аб сучасным, неабходна добра памятаць аб мінулым, і бязлітасна, па закону сумленнага сэрца, гнеўна кляйміць тых, хто прагне чалавечага гора, хто сее яго.

**Гляджу: матуля песціць сына...**
**А недзе ў вочы б'е напалм.**
**І зноў на нейкую краіну**
**Раптоўна вылюдак напаў.**

І хто не адчуе, як вялікае, бязмежнае гора шматпакутнага в'етнамскага народа пераклікаецца зараз з пакутамі нашых людзей у гады жудаснай фашысцкай навалы...

Дарэчы, некаторыя вершы «Кнігі ста песень» я напісаў за мяжой — у Нью-Йорку, дзе давялося пабываць з дыпламатычнай місіяй... У краіне, якая прынесла столькі няшчасця свабодалюбнаму народу В'етнама. І само сэрца дыктавала мне тыя, мякка кажучы, «сярдзітыя» вершы, у якіх я выкрываю ілжывую дэмакратыю Амерыкі.

— Вашы вершы, як сапраўдныя песні, паланілі чытача глыбокім лірызмам, праўдзівасцю, чуллівай непасрэднасцю... Чытачу адразу палюбілася новая кніга. Але ён справядліва чакае цяпер ад вас новых цікавых кніг, хоча ведаць, якія творчыя планы ў паэта на будучае.

— Планы такія. Папершае, напісаць новую кніжку вершаў. У ёй знойдуць месца «вечныя» тэмы: лёс чалавецтва, роля паэта ў жыцці грамадства, які адчувае сябе заўсёды змагаром не толькі за шчасце свайго народа, але і ўсіх працоўных зямнога шара. Кніга будзе скіравана ў сучаснасць. Выкарыстаю свае ўражанні з паездак за мяжу, па нашай цудоўнай краіне, па сваёй рэспубліцы.

Ёсць у мяне і яшчэ адна задума: закончыць у недалёкім будучым публіцыстычную аповесць. Таксама — роздум пра наш час.

— Дзякуй, Канстанцін Ціханавіч. Апошняе пытанне — якія з'явы літаратурнага працэсу ў рэспубліцы вы лічыце цікавымі і важнымі?

— Ну, гэта пытанне вельмі шырокага дыяпазону... Тут можна гаварыць і многа, і вельмі лаканічна. Адзначу толькі самае істотнае. Галоўным, на мой погляд, з'яўляецца тое, што пісьменнікі рэспублікі вельмі ўсхвалявана ўспрынялі і адгукнуліся на заклік партыі: ва ўсёй велічы паказаць нашага слаўнага сучасніка — рабочага, калгасніка, інтэлігента... Нямала напісана ўдалых твораў аб савецкім чалавеку, будаўніку камунізму, патрыёту нашай шматнацыянальнай Радзімы, абаронцу яе заваёў. Многае робіцца зараз і ў паэзіі, і ў прозе, і ў драматургіі. Але, думаецца, кожны з нас, пісьменнікаў, павінен яшчэ больш актыўна працаваць над мастацкім увасабленнем вобразаў сучаснікаў, каб маладое пакаленне савецкіх людзей выхоўвалася на нашых кнігах, вучылася, як жыць, як будаваць самае шчаслівае грамадства на зямлі. У гэтым і я, паэт, бачу свой святы абавязак літаратара, абавязак камуніста.



апаэтызаваць, паказаць велічнасць гэтага вобраза.

Я асабіста лічу, што найбольш плённа пішацца для дзяцей у сталым узросце, у гадоў гэтак сорак—пяцьдзесят, а то і шэсцьдзесят. Чалавеку ўжо ёсць пра што расказаць. Вядома, можа быць і выключэнне. Мне асабіста падабаюцца дзіцячыя творы Рыгора Барадуліна. І новыя, і тыя, што былі напісаны раней.

Дзіцячы пісьменнік не можа не быць педагогам, педагогам па прызванню. Не ведаючы асноў педагогікі, не маючы жыццёвага вопыту, цяжка пісаць для дзяцей. Я б сказаў, процілаказана. Вялікім шчасцем лічу для сябе супрацоўніцтва з Васілём Аляксандравічам Сухамлінскім. Пабольш бы такіх людзей, і сярод настаўнікаў, і сярод дзіцячых пісьменнікаў.

— Цімох Васільевіч, вы ўжо даўно з'яўляецеся рэдактарам дзіцячага часопіса «Вясёлка». Пэўна, гэта шмат дапамагае і ў працы над новымі творамі?

— Са старонак гэтага часопіса пачаў свае жыццё Вася Вясёлкін. Калі памятаеце, то ў «Бусліным леце» Вася сам піша казку. І «Вавёрчына гора», і «Буслінае лета» пісаліся, можна сказаць, па ўласнай задуме. А тут патрэбен быў на старонках часопіса свой герой. А калі «Вясёлка», то, вядома, і Вясёлкін. Так з'явіліся мае «Азбука Васі Вясёлкіна», «Казка пра цара Зубра» і казка Сяргея Грахоўскага пра Вясёлкіна, які ляціць на месяц.

Наогул, стварэнне гэтага часопіса вымагалася развіццём дзіцячай літаратуры ў рэспубліцы. Вазьміце нашых сённяшніх дзіцячых пісьменнікаў. Амаль кожны з іх у свой час пачынаў друкавацца на старонках часопіса.

Працуючы ў такім часопісе, добра адчуваеш патрэбы дзяцей. Памятаю, неабходна было для маленькіх стварыць своеасаблівую азбуку, каб дзіця, якое нават яшчэ не ўмее чытаць, запаміна́ла літары, знаходзіла іх, называла словы. Так узнікла мая «Азбука». У сваіх пісьмах настаўнікі часта выказваюць мне ўдзячнасць за гэты твор.

— У апошні час самі пісьменнікі ўзяліся за стварэнне падручнікаў для школ. Думаецца, гэта добрая справа.

— Я рад, што супрацоўнічаю з Міністэрствам асветы. Прыемна, што пісьменнікі далучыліся да школы, да яе жыцця. Анатоль Клышка стварыў новы «Буквар». У супрацоўніцтве з вопытнымі педагогамі і метадыстамі я складаў «Роднае слова» для 1 і 2 класаў, Эдзі Агняцвет — падручнік для 3 класа. Рыгор Шкраба напісаў падручнік для 9 і 10 класаў. Трэба пісьменнікам шмат працаваць для дзяцей, каб адчуць сапраўдную радасць, каб прынесці яе сваім чытачам. Гэтага, мабыць, не заўсёды можна дасягнуць у маладым узросце. Да ўсяго сказанага хачу дадаць, што дзіцячы пісьменнік павінен быць чалавекам вялікай эрудыцыі і культуры. А прыкладаў тут шмат. Гэта і Маршак, і Чукоўскі, і нашы Колас і Купала.

...Пісаць для дзяцей — вялікае шчасце. Дзеля гэтага шчасця жыве і працуе пісьменнік Васіль Вітка.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

# ЛУНАЕ ПЕСНЯ НАД КРАІНАЙ

Мабыць, нам, работнікам радыё, больш за ўсіх ясна, якой сапраўды шырокай папулярнасцю карыстаецца песенная творчасць Юрыя Семянякі. Сотні лістоў прыходзяць з усіх куткоў краіны з заяўкамі на выкананне яго песень. Меладыйныя, ясныя па задуме, прасякнутыя настроем то шчырай весялосці, то лірычнага суму, то грамадзянскім напалам, яны гучаць на хвалях радыё і ў дні вялікіх патрыятычных свят, і ў вячэрніх канцэртах, і ў праграмах «З музычным прывітаннем»...



Зайздросная якасць гэтага кампазітара яшчэ і ў тым, што ён звяртаецца да розных аўдыторый слухачоў. Калі вы з'яўляецеся прыхільнікам вакальна-сімфанічнай музыкі, оперы, камернай творчасці, у вас ёсць магчымасць выбраць такія старонкі з напісанага Ю. Семянякам. Разам з паэтам А. Бачылам ён стварыў лірыка-камічную оперу «Калючая ружа» і біяграфічную оперу пра Максіма Багдановіча «Зорка Венера». Яму належаць тры кантаты для салістаў, хору і сімфанічнага аркестра, уверцюра для аркестра народных інструментаў, музычныя камедыі «Рабінавыя каралі» і «Пяе «Жаваранак». ...Крыніцай яго песень стала беларуская паэзія. Кампазітар адчувае хараство і «чуе» мілагучнасць вершаваных радкоў. Ён піша песні на словы Я. Купалы і Я. Коласа, П. Броўкі і М. Танка, К. Кірэенкі і А. Астрэйкі, А. Вольскага і С. Грахоўскага, А. Русака і А. Бачылы, часам даючы ім «пераклад» на музычную мову адразу пасля публікацыі вершаў у часопісе або нават у газеце.

Бывае, такую аператыўнасць мы лічым баявой у лепшым сэнсе гэтага слова. Што ж, і такое вызначэнне таксама заслужанае Юрыем Уладзіміравічам: ён — баявы мастак.

Для нас, выканаўцаў, Дзяржаўная прэмія, прысуджаная Юрыю Семяняку за патрыятычныя песні, створаныя ім у апошнія гады, таксама радасць. Мы ж, здараецца, першыя з нотных аркушаў «слухаем» яго песні, часта здагадваючыся, што ім наканавана сапраўдная папулярнасць, што іх палюбіць народ. За шчырасць. За меладыйнае хараство. За настрой, які можа завалодаць чалавекам і абудзіць у ім светлыя пачуцці. За яснасць грамадзянскага гучання.

Ведаючы Юрыя Уладзіміравіча, мы перакананы, што ён адкажа на ўзнагароду новымі творамі. І мы чакаем плёну яго натхнёнай працы, чакаем новых песень. Чакаюць іх і шматлікія прыхільнікі таленту заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Ю. Семянякі.

А сёння, калі ласка, уключыце прыёмнікі. На хвалях Беларускага радыё будзе абавязкова гучаць песня гэтага аўтара. Заяўкі на іх былі атрыманы ўчора.

**Валерый ПРЫШЧАПЕНАК,**
заслужаны артыст БССР,
саліст Беларускага радыё.

# САМО ЖЫЦЦЁ

Макім Горкі казаў, што для дзяцей трэба пісаць гэтак жа, як для дарослых, толькі крышачку лепш. А паставіць добры фільм — мусіць, больш складаная задача. Бо маленькім гледачам трэба паказаць праўду (інакш яны не павераць аўтарам), і ў той жа час паказанае павінна ўзвышацца над штодзённым, каб вучыць, выхоўваць, уздымаць іх да ідэалу.

Творчасць рэжысёра Льва Уладзіміравіча Голуба пачынаючы з цікавай кінастужкі «Дзеці партызана» (1954 г.) стала пошукам дакладных сродкаў уздзеяння на розум і сэрцы піянераў і школьнікаў. Такія свае, адметныя сродкі знойдзены вядомым кінематаграфістам. Яркае сведчанне гэтаму — «Паланез Агінскага» — апошняя яго карціна. Тут не толькі дзеці, але і дарослыя адчуваюць подых вялікіх хвалюючых падзей, святло баявога братэрства розных народаў, мужнасць маленькага героя ў вялікай вайне.

Поспех гэтага, як і іншых фільмаў Л. Голуба, вырашае тое, што ён надзвычай трапна выбірае выканаўцаў, умее працаваць з імі як педагог і мастак. Глыбокае, дасканалае веданне дзіцячай псіхалогіі дазваляе яму ствараць на экране непаўторныя вобразы ў займальных жыццёвых прыгодах.

Гэты мастак умее сябраваць і з артыстамі і з падлеткамі, якія таксама робяцца ў яго фільмах маленькімі акцёрамі. з пісьменнікамі, творчасць якіх служыць рэжысёру крыніцай натхнення.



К. Губарэвіч.

Творчае супрацоўніцтва Л. Голуба з драматургам К. Губарэвічам узбагаціла наш дзіцячы мастацкі кінематограф. Мабыць, не выпадкова ён прыцягнуў да здымкаў мастацкай стужкі і вядомага аператара-дакументаліста Р. Масальскага. Імкненне да праўды ў кожным эпізодзе і ў кожнай дэталі і тут падказала рэжысёру, што ў кантакце з чалавекам, які ведае цану рэпартажнай дакладнасці на экране, ён дасягне пастаўленай мэты больш упэўнена. І стужка, створаная ў такой садружнасці, пакідае ўражанне, нібы экран «толькі» ўзнаўляе падзеі, што нічога «прыдуманага» ні ў сюжэце, ні ў характарах дзеючых асоб няма, што гэта — само жыццё...



Л. Голуб.

«Дзяўчынка шукае бацьку», «Анюціна дарога», «Паланез Агінскага» — стужкі, якія робяць моцны ідэйна-выхаваўчы ўплыў на юных гледачоў. Мы часта бачым, як школьнікі пакідаюць кіназалу вельмі ўзрушаныя, да глыбіні душы ўсхваляваныя. Яны ўносяць з сабой і роздум аб гераізме сваіх бацькоў, аб патрыятычных справах сваіх равеснікаў. Гэты роздум — патрэбны і карысны. Так сталеюць юныя. Мастацтва адкрывае перад імі веліч подзвігу, апетую без рыторыкі, па-жыццёваму праўдзіва, пераканальна.



Р. Масальскі.

Узнагарода, з якой і мы, работнікі кінафікацыі, віншуем Л. Голуба, К. Губарэвіча і Р. Масальскага, — заслужаная. Іх мастацкія стужкі, адрасаваныя самым юным гледачам, уваходзяць у арсенал твораў, якія памагаюць партыі, камсамолу, піянерыі выхоўваць з падлеткаў сапраўдных патрыётаў Савецкай Бацькаўшчыны.

**Ф. ЛЮЦКО,**
дырэктар кінатэатра «Піянер».

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



**МАГІЛЁЎСКІ** драматычны тэатр паказаў новы спектакль — «Чалавек з боку» па п'есе І. Дварэцкага. Рэжысёр — Ул. Караткевіч, мастацкае афармленне — М. Волахава.

На здымку — у ролі Ніны Шчогалевай артыстка А. Барысава, інжынера Чашкова — заслужаны артыст БССР А. Рудакоў.

Фота А. ГОЛЫША.



**У ГОМЕЛІ** адбылася прэм'ера спектакля «Аперацыя «Прывітанне» па п'есе далёкаўсходняга драматурга Валерыя Шаўрына. Рэжысёр спектакля — Г. Вагау, дэкарацыі зроблены па эскізах заслужанага дзеяча мастацтваў Казахскай ССР В. Кляўзера.

На здымку — заслужаны артыст БССР П. Філіпаў у ролі начальніка крымінальнага вышуку Каберыдзэ і артыстка Л. Усанава ў ролі Таццяны Барысаўны.

Фота В. ЗЯЛЕНКІ.

# ЁСЦЬ

СЦВЯРДЖЭННЕ, якое вынесена ў загаловак гэтага артыкула, не фіксацыя знаёмства са штатным раскладам знанай канцэртнай установы. Самае жыццё яе, творчыя пошукі і намаганні, здабыткі і страты, барацьба за мастацкую непаўторнасць аблічча і грамадскі рэзананс на выконваемыя праграмы — усё гэта гаворыць, што сапраўды існуе ў рэспубліцы яшчэ адна філармонія: Гомельская, абласная. Яна яшчэ вельмі маладая, існуе ўсяго пяць год, што для творчага арганізму, бясспрэчна, мала, калі гаварыць не пра ўстанову па продажы выпадковых канцэртаў, а пра мэтанакіраваны мастацка-прапагандысцкі калектыў, якім, па сутнасці, павінна быць кожная філармонія. Тое, што падкрэслена абласное прызначэнне філармоніі, датычыцца не прымяншэння мастацкай вартасці яе творчых ансамбляў, а аб'ёму дзейнасці, яе штатных магчымасцей.

**Для чаго ж спатрэбілася гэтая прэамбула? Каб было відавочна, што ёсць яшчэ пэўны час у гомельскіх філарманістаў, каб замацаваць свае дасягненні, вызваліцца ад нецікавага, выпадковага, што захавалася часам ад мінулага, калі камерцыйны бок вабіў былых кіраўнікоў Гомельскай філармоніі больш, чым ідэйна-мастацкі.**

Аўтару гэтых радкоў давялося за апошні год неаднаразова знаёміцца з канцэртамі гамяльчан. Тут былі і лекцыі-канцэрты, і эстрадныя нумары: змешаныя і падпарадкаваныя пэўнай праграмнай задуме («Песні над Сожам», «Рытмы часу», «Палескія заранкі» і г. д.). Кожны з іх даваў магчымасць убачыць творчы патэнцыял выканаўцаў, іх моцныя і слабыя бакі, хібы рэпертуару ці кампаноўкі асобных нумароў у пэўнай праграме. Але найбольш шырока і змястоўна паказалі сябе гомельскія артысты, калі давалі творчую справаздачу ў Мінску, выступаючы ўдзельнікамі рэспубліканскага конкурсу на лепшую праграму, прысвечаную 50-годдзю СССР.

Былі ў гэтай праграме пэўныя «выдаткі» на мастацкую вартасць асобных нумароў, перашкаджала некаторым выканаўцам «боязь» сталічнай аўдыторыі. Але агульнае ўражанне ад гэтага канцэрта склалася станоўчае. Рэжысёр І. Цвярскі здолеў зладжана падпарадкаваць усе нумары ідэйна-мастацкай задуме праграмы — паказу суквецця песенных багаццяў братніх савецкіх нацыянальных культур і шматбаковага духоўнага свету сучасніkаў. Былі тактычна знойдзены адпаведныя месцы і для драматычна насычаных твораў, і для лірычнай і жартоўнай песні, для мастацкага слова і сольнай інструментальнай або аркестравай п'есы. Літаратурныя звязкі «за кадрам» — па радыё — не перашкаджалі ўспрымаць асноўныя нумары праграмы, наадварот, іх цэментавалі.

Цудоўна тое, што ў канцэрце побач з творамі рускіх кампазітараў А. Новікава, А. Колкера, А. Фельцмана, М. Фрадкіна, В. Акульшына, армянскага — А. Бабаджаняна, латышскага — Р. Паулса і іншых вядомых аўтараў братніх рэспублік так удала былі выкананы нашы беларускія папулярныя песні У. Алоўнікава, Ю. Семянякі, І. Лучанка, М. Пятрэнкі, яркія ўзоры нашага песеннага фальклору. Слухачы беларускай сталіцы атрымалі тут магчымасць пазнаёміцца і з яркімі выканаўцамі гэтых твораў. А іх сярод гамяльчан нямала.

**Так, напрыклад, вабіць публіцыстычнай манерай выканання ў спалучэнні са стрыманасцю сцэнічных паводзін і выдатнымі вакальнымі дадзенымі малады спявак В. Зотаў. Ён з вялікім настроем і мастацкім тактам выканаў «Верасы» І. Лучанка, «За таго хлопца» М. Фрадкіна, некаторыя іншыя творы. Вельмі проста, высакародна па гучанню вялікага і прыгожага голасу трактуе высокапрафесійны спявак Н. Мельнікаў песні «Я люблю, цябе, Расія» Д. Тухманава, «Эй, ухнем» А. Колкера, «Песню аб Мінску» У. Алоўнікава. Перспектыўны артыст, хоць часам трошкі манерны і мітуслівы, рэпертуарны спявак А. Ярмоленка. Яго багатаму па тэмбру тэнару можа пазайздросціць любы вядомы выканаўца. Малады артыст у канцэрце выступіў амаль ці не з паловай аддзялення праграмы. І «Белая Русь» Ю. Семянякі таксама знайшла добрага выканаўцу ў асобе спявачкі Я. Заўялавай.**

**Асабліва каштоўнае ў гэтых артыстаў тое, што яны «знойдзены» кіраўніцтвам філармоніі непасрэдна ў Гомелі, тут выхоўваліся і таму валодаюць беларускай мовай, зацікаўлены ў нацыянальным рэпертуары, ахвотна прапагандуюць творы «сваіх кампазітараў, таксама як і аўтараў з іншых рэспублік.**

**Нельга не адзначыць і высокую якасць выканання балады «Хатынь» артыстам Л. Філоненкам. Ён вельмі шчыры ў раскрыцці пачуццяў і заражае сваімі перажываннямі слухачоў, не карыстаючыся ніякімі знешнімі сцэнічнымі прыёмамі.**

**Добрае ўражанне сваёй музычнасцю і тэхнічнай падрыхтаванасцю пакідае і балалаечнік М. Залінскі — выканаўца «Карагода» В. Купрэвіча і старажытнага рускага раманса «Я вас сустрэў» (пад акампанемент зладжанага інструментальнага ансамбля «Сябры»).**

Можна было б назваць і нумары гэтай праграмы, якія пакінулі не такое прыемнае ўражанне, маюць нават пэўныя заганы. Аднак аўтар нататак не імкнецца пісаць рэцэнзію, а хоча паказаць наяўнасць у Гомельскай філармоніі даволі моцнага ў мастацкіх адносінах творчага касцяка.

# І ЗВІНЕЛІ НАШЫ ГАЛАСЫ...

...Канцэртная зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Рэпетыцыя. Гучыць знаёмы цёплы голас, знаёмая мелодыя, словы...

...Полымя ружовых
верасоў.
Я да соснаў, пэўна б,
не прыйшоў,
Калі б лета сум мой
загаіла,
Калі б восень зноў
не запаліла...

«Верасы»... Здаецца, кампазітара Ігара Лучанка і спевака парадніла нешта такое, ад чаго ў другім выкананні песня не прагучала б так шчыра, так глыбока і пранікнёна. Не трэба рэкамендаваць выканаўцу. Заслужаны артыст БССР Віктар Вуячыч — адзін з самых папулярных сучасных спевакоў. Пераможца Першага Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады ў Маскве, лаўрэат Міжнароднага конкурсу ў Варне, ён шырока вядомы як выканаўца песень савецкіх кампазітараў і твораў беларускіх аўтараў не толькі слухачам сацыялістычных краін. Яго канцэрты горача прымалі ў Англіі і Бельгіі, у Галандыі і Даніі, у Францыі, ФРГ і Канадзе, у Сірыі, Ліване, Чылі і Бангладэш.



Гэтага спевака ведаюць па выступленнях у канцэртных залах, па радыё і тэлебачанні, па запісах шматлікіх песень нашай краіны (у тым ліку і беларускіх аўтараў) на грамафонныя пласцінкі і магнітафонныя стужкі. Адна з іх выпушчана ў Парыжы, на якой запісаны 12 твораў савецкіх кампазітараў у выкананні В. Вуячыча. Сярод іх «Верасы» і «Я прыйду» І. Лучанка, а таксама «Песня старога халасцяка» А. Туранкова.

Вядомы выканаўца заўсёды імкнецца, каб кожны яго канцэрт меў шматжанравы характар. Тут песні палітычнага, сапраўды грамадзянскага гучання, лірычныя і народныя. У рэпертуары В. Вуячыча патрыятычная песня займае асноўнае месца. Лірычныя творы ён выконвае так, каб у слухачоў яны выклікалі глыбокія пачуцці, добры, светлы настрой.

Сярод песень, якія ўплываюць на эмацыянальны стан аўдыторыі, самому спеваку асабліва дарагія «Верасы» І. Лучанка, «Жураўлі» Я. Фрэнкеля, «Дзякую табе» А. Бабаджаняна. І слухачы палюбілі іх менавіта ў «вуячычавым» гучанні. Дастаткова, скажам, паглядзець пошту радыё, каб пераканацца ў гэтым. Так, гэтыя песні яркія, прыгожыя. Часам здаецца, што ты іх ведаеш даўно, не адзін год.

Чакаеш, што такі артыст, як В. Вуячыч, на кожным канцэрце адкрые табе нешта новае. Спадзяешся, што сёння пачуеш добрую па ўсіх кампанентах песню аб сучасніку, аб яго справах, каб музыка па сваёй драматургіі дакладна несла гэтую думку, каб песня стала «шлягерам» у самым добрым сэнсе гэтага слова.

— Калі мы пачуем новае ў вашым рэпертуары? — такое пытанне задаем Віктару Лук'янавічу ў перапынку на рэпетыцыі.

— Праца над песняй — гэта заўжды творчы пошук, якому няма канца. Паэт шукае найбольш дакладныя і адухоўленыя словы для раскрыцця чалавечых пачуццяў; кампазітар — яркую, непаўторную па характару, мелодыю, на якой словы паляцяць да людзей. Выканаўца павінен данесці да слухачоў гэты сплаў думкі і прыгажосці. Тады песня стане блізкай, патрэбнай кожнаму, хто яе пачуе. Мне, як і наогул эстрадным спевакам, часам даводзіцца «дапамагаць» нараджэнню песні ў тым выглядзе, як яна выносіцца на прысуд слухачоў.

Не, я не складаю ні мелодый, ні вершаваных радкоў. Спрабую падказаць аўтарам песні, разам паразважаць, ці дакладна прапанаваны паварот думкі, ці перайшло пачуццё ў меладычны малюнак... Зразумела, выканаўца ў такіх выпадках зыходзіць са сваіх магчымасцей, «плануе», як песня прагучыць не «наогул», а ў яго вуснах...

Спашлюся на прыклад. Калі перад падарожжам у Чылі Ігар Лучанок пісаў свае вядомыя «Верасы», нам абодвум давялося шмат падказваць адзін аднаму, раіцца і спрачацца. Песня павінна быць не толькі яркай у запісе на нотную паперу, але і пры маім выкананні перад незнаёмай чылійскай аўдыторыяй. Што патрэбна для гэтага зрабіць? Тут патрэбна суладдзе з аўтарам. Калі я спяваў «Верасы» ў далёкай лацінаамерыканскай краіне, калі слухачы з такой шчырай прыхільнасцю прымалі песні, мне падалося, што мы з кампазітарам працавалі «да сёмага поту» нездарма.

Яшчэ адно цікавае для мяне назіранне. У кожнай аўдыторыі, перад якой даводзіцца выступаць, заўсёды ёсць твае прыхільнікі. Гэта калі спяваеш у гарадах сваёй Радзімы. Такое часта тлумачыцца тым, што слухачы па радыё ці па пласцінках ведаюць выканаўцу і яго рэпертуар. У замежных краінах адно тое, што ты з'яўляешся прадстаўніком мастацтва Савецкага Саюза, выклікае вялікую цікавасць да канцэрта. Наогул, удзел у замежных падарожжах узнімае пачуццё адказнасці артыста і за складанне рэпертуару, і за ўзровень выканання кожнага нумара.

— На розных кантынентах і слухачы бываюць розныя па тэмпераменту ўспрымання песні, ці не так? — пытаюся ў Віктара Лук'янавіча.

— Так. Гэта адчуваеш тады, калі параўнаеш, скажам, аўдыторыю ў Чылі з аўдыторыяй у Бангладэш, дзе я таксама нядаўна гастраляваў. Даводзіцца шукаць спецыфічныя прыёмы, каб кантакт паміж сцэнай і залай быў сапраўды ўзаемны. Да таго майстэрства, якім ты, здаецца, валодаеш, дадаецца істотна новае, нават нечаканае. Знайсці дакладныя тэрміны для гэтых набытых табой «дадаткаў» цяжка, а можа, і наогул немагчыма.

Цяпер я збіраюся на гастролі. Мне здаецца, што маім будучым слухачам будзе цікава паслухаць песні «Белая Русь» Ю. Семянякі, «Пра Расію» В. Салаўёва-Сядога, «Радзіме» І. Лучанка і іншыя.

Самымі яркімі ўражаннямі 1972 года для мяне застаюцца выступленні, якія мне даверылі праводзіць у Маскве ў святочныя дні 50-годдзя ўтварэння СССР...

Артыст глядзіць на гадзіннік. Разумею — рэпетыцыя. Артыста запрашаюць на сцэну. Цішыня. Ён нешта шэптам сказаў канцэртмайстру. Над клавішамі ўзляцелі рукі. Акорд. І зноў — «Верасы»... Слухаю — і штосьці новае, раней у голасе Віктара Вуячыча не чутае мной, гучыць выразна. Так, гучыць! Магчыма, гэтае новае адценне замацуецца і ўвойдзе ў інтанацыйную палітру, магчыма, наадварот, гэта — толькі штрых, што «з'явіўся» і пасля праверкі перад сябрамі або перад аўдыторыяй слухачоў знікне... Артыст — у пошуку. Ён не дае сабе палёгкі. Ён імкнецца апраўдаць давер шматлікіх сваіх прыхільнікаў.

Я пакідаю філарманічную залу, а там, на сцэне, гучыць, пераліваючыся ўсімі фарбамі вясёлкі, знаёмы голас, голас, з якім ты пасябраваў назаўсёды: «Полымя ружовых верасоў...» Зіма, а песня вядзе і кліча ў квецень беларускіх верасоў.

Л. КРУШЫНСКАЯ.

# У ГОМЕЛІ ФІЛАРМОНІЯ...

Але ж тут не названы яшчэ і тыя выканаўцы, хто плённа працуе ў лектарыйных канцэртах. Знаёмства з добра падрыхтаваным лектарам Я. Іконнікавай, якая да таго ж умее зацікавіць аўдыторыю слухачоў простай, даходлівай мовай, са спявачкай Л. Вярбіцкай, піяністкай Я. Палей, скрыпачом А. Яўтуховічам — артыстамі з творчымі індывідуальнасцямі і энтузіястамі сваёй музычна-прапагандысцкай дзейнасці, яшчэ больш падтрымлівае ўражанне аб наяўнасці ў Гомелі патрэбных мясцовых філарманічных кадраў. І праграмы гэтых канцэртаў-лекцый цікавыя. Так, акрамя класічнага цыкла (у якім за апошні год была прадстаўлена творчасць Глінкі, Даргамыжскага, Мусаргскага, Рымскага-Корсакава), у дванаццаці народных універсітэтах культуры праводзіліся таксама заняткі па тэмах «Ленін і музыка», «Творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа ў музыцы», «Падарожжа ў свет музыкі», «Сустрэча з песняй», «Музыка Савецкай Расіі», «Музыка Савецкай Грузіі», «Музыка Савецкага Азербайджана» і іншых, якія адлюстроўваюць дружбу братніх народаў нашай шматнацыянальнай краіны.

Калі ж перайсці да лічбаў, дык за мінулы канцэртны сезон лекцыі Гомельскай філармоніі ахапілі каля 125 тысяч слухачоў гарадоў і раёнаў вобласці. А якое яны пакінулі ўражанне, выказаў ад імя Чачэрскага народнага універсітэта культуры яго дэкан Мікалай Рыгоравіч Яроменка:

— Кантакты з нашай Гомельскай філармоніяй — трывалыя, не было ніводнага зрыву заняткаў. Што датычыцца якасці іх правядзення, — высокі ўзровень і ўменне «захапіць» аўдыторыю. Прывяду такі прыклад. Наша зала мае 400 месц, і яна заўсёды напоўнена слухачамі, хоць фармальна мы спачатку мелі 110 запісаўшыхся ва універсітэт. Цяпер ужо мы маем 300 чалавек пастаянных слухачоў, і зацікаўленых заняткамі становіцца ўсё больш, прыходзяць усё новыя і новыя людзі...

**А як абстаяць справы ў гомельскіх філарманістаў — кіраўнікоў установы — з прапагандай лепшых дасягненняў мастацтва сіламі буйнейшых майстроў краіны і замежных гастралёраў? Дадзім слова Зоі Сямёнаўне Шыхгасанавай — работніку Гомельскага домабудаўнічага камбіната і наведвальніцы амаль усіх філарманічных канцэртаў. Чалавек высокай культуры — дарэчы, праправнучка пісьменніка Ф. Дастаеўскага, — яна вельмі патрабавальная да якасці і арганізацыйнага боку канцэрта, але разам з тым сцвярджае:**

**— Канцэрты прыезджых майстроў праводзяцца сістэматычна і з вялікай да іх адказнасцю. Праграмы цікавыя, змястоўныя, імёны выканаўцаў добра вядомыя аматарам музыкі. Публіка прымае іх горача, ад сэрца. Крыўдна, што мала сімфанічных канцэртаў, што ў горадзе няма сваёй філарманічнай залы...**

Апошняя заўвага слушная, але аб ёй трохі пазней.

Нездарма, відаць, пачынаючы з другой паловы 1971 года работнікі Гомельскай філармоніі ўвесь час за перавыкананне плана канцэртнай дзейнасці па ўсіх паказчыках — колькасць выступленняў, ахоп слухачоў, эканамічны эфект — атрымліваюць «прагрэсіўку» — спецыяльную даплату да штатнага акладу. Прычым планы гэтыя перавыконваюцца не толькі ў сваёй вобласці, але і на гастролях уласных гомельскіх артыстаў, якія паспяхова канцэртуюць у рэспубліках Сярэдняй Азіі і на Украіне, у Казахстане і на Паўночным Каўказе, у гарадах РСФСР. Водгукі на гэтыя канцэрты ў друку розных гарадоў вельмі станоўчыя.

Гаворачы пра здабыткі арганізацыйна-творчай дзейнасці Гомельскай філармоніі, адзначым, што тут існуе абанементная сістэма для аматараў камерных канцэртаў. Яны маюць магчымасць набыць адразу білеты на шэраг творчых вечароў сваіх любімых выканаўцаў. Прычым такія абанементы — на 7 канцэртаў — распаўсюджваюцца паспяхова і ў Гомелі, і ў Мазыры (тут звыш тысячы абанементатрымацеляў). І праводзяцца яны ў стацыянарна вызначаных памяшканнях, чаго пры адсутнасці ўласнай канцэртнай залы дабівацца было вельмі складана.

Надышоў час сказаць і пра становішча з гэтай залай і, наогул, аб умовах, у якіх сёння прымушана працаваць маладая філармонія, пазбаўленая сваёй плошчы. Не мае яна сталых рэпетыцыйных пакояў для падрыхтоўкі новых праграм сваімі артыстамі; адміністрацыйны персанал туліцца ў адным з гарадскіх дамоў культуры, дзе філармонія арандуе пакой, падзелены перагародкай на некалькі каморак. Праўда, пачалі праектаваць філарманічны будынак з канцэртнай залай і ўсімі неабходнымі ўмовамі для творчай і арганізацыйнай дзейнасці. Але часу, пакуль здзейсніцца будоўля, пройдзе багата. Таму замест 35—40 стацыянарных канцэртаў, якія магла б сёння даваць філармонія, яна мае магчымасць праводзіць кожны месяц усяго толькі 20: больш дзён ёй не выдзяляе Палац культуры чыгуначнікаў і Гомельскае музычнае вучылішча. А адсюль і рэдкія сімфанічныя канцэрты, бо, да таго ж, свайго аркестра **пакуль няма**, а запрашаць на гастролі з іншых гарадоў на адно-два выступленні — немэтазгодна.

**Тут падкрэслена, што аркестра свайго яшчэ ў філармоніі няма таму, што кіраўніцтва яе робіць захады, каб выкарыстаць для канцэртнай дзейнасці вучэбны сімфанічны калектыў вучылішча. Да таго ж вядуцца перагаворы з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР, каб ён сістэматычна праводзіў у Гомельскай філармоніі спецыяльныя цыклы канцэртаў. Гамяльчане — людзі энергічныя і здзейсняць гэтую задуму, як і арганізацыю ўласных інструментальных ансамбляў: фартэпіяннага трыо, квартэта баяністаў; яны наладжваюць канцэрты хору студэнтаў музычнага вучылішча і іншыя творчыя мерапрыемствы.**

**Тым часам яны настойліва і цікава праводзяць канцэрты Свята мастацтва, якое прысвечана 50-годдзю СССР і перакрочыла межы нашай рэспублікі. У Гомелі і вобласці выступалі Варонежскі народны хор, ансамбль песні і танца «Летува», аркестр Беларускага тэлебачання і радыё, майстры мастацтва Азербайджана, Таджыкістана, Марыйскай АССР, салістка Вялікага тэатра Т. Фаміна, народная артыстка Туркменіі М. Шахбердыева, квартэт імя Барадзіна і вялікая колькасць іншых цудоўных выканаўцаў краіны — гасцей свята.**

Рыхтуецца таксама новы рэпертуар для сваіх выканаўцаў. Зроблены творчыя заказы кампазітару І. Лучанку для напісання песень спецыяльна для гомельскіх артыстаў, вядуцца перагаворы з беларускімі пісьменнікамі аб стварэнні для гамяльчан літаратурных твораў, бо размоўны жанр у філармоніі — гэта вельмі «вузкае месца» як у сэнсе якасці канферанса, так і па яго выкананню.

**І тут зноў трэба адзначыць, што запрашэнне на сталую работу рэжысёра І. Цвярскога — былога работніка Беларускага радыё, аказалася вельмі карысным для Гомельскай філармоніі. Ён робіць энергічныя захады над стварэннем новага рэпертуару. Добрым, ініцыятыўным кіраўніком калектыву філармоніі аказаўся і яе малады дырэктар Валерый Сяргеевіч Радзькін — выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Нават скупая на кампліменты Ала Дзмітрыеўна Панасенка — намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі Гомельскага абкома камсамола, і тая гаворыць, што з прыходам у філармонію Валерыя Сяргеевіча, справы там наладжваюцца зусім інакш, чым раней. Пра рэзкую змену стылю філарманічнай дзейнасці за апошні год гаварыў і намеснік начальніка абласнога ўпраўлення культуры С. Ліс. Шмат намаганняў, каб у Гомелі была канцэртная ўстанова, вартая буйнай прамысловай і культурнай вобласці Беларусі, прыкладае разам са сваім дырэктарам таксама кіраўнік камернага і лектарыйнага аддзелаў філармоніі, вельмі энергічны і ўлюбёны ў справу Міхаіл Матусаў і маладыя адміністратары Ніна Інспектарава і Тамара Шыраева — абедзве, дарэчы, са спецыяльнай музычнай адукацыяй, што не так часта бывае, на жаль, у канцэртных арганізацыях. Многа робяць і іншыя, не названыя тут работнікі.**

Хоць і не ўсё яшчэ ў Гомельскай філармоніі цалкам адпавядае высокім запатрабаванням, але практыка яе работы сёння, перспектывы на будучыню, даюць падставы гаварыць, што эксперымент са стварэннем у рэспубліцы абласной канцэртнай арганізацыі, аб якім было шмат крыватолкаў, аказаўся сапраўды ўдалым.

**І. НІСНЕВІЧ.**

---

СЛОВА ПРА МАЛОДШАГА СЯБРА

# «АМПЛУА» АБРАНА АДКАЗНАЕ

Гэта здарылася з ім у дзевятым класе. Пры школе арганізаваўся хор.

— Пойдзем, Юрка! — угаворвалі аднагодкі. Спачатку не згаджаўся, а потым пайшоў. Спевы не захапілі — от, сябры хадзілі спявалі, ну і ён... Аднойчы пажартаваў, «паднаціснуў» на голас і, хоць гэта было недарэчы, пачаў старанна басіць... Пасля заняткаў усіх адпусцілі, а яго затрымалі.

— Ну, думаю, пацягнуць да дырэктара, — успамінае Юрый Барысёнак. — Непрыемна! А кіраўнік хору загаварыў пра іншае: «Слухай, Юра, сёння ты старанна строіў дурня. З-за цябе спеўка прайшла дрэнна... Але ў цябе фармуецца голас. Магчыма, будзе добры, сакавіты бас. Я кірую дзіцячай опернай студыяй пры Доме піянераў. Будзеш у мяне займацца...»

І вось басавая партыя ў оперы-казцы «Машачка і мядзведзь»... Адсюль усё і пачалося. Юра Барысёнак стаў юным «артыстам» студыі і заўсёдным наведвальнікам кіеўскіх тэатраў. Незабыўныя ўражанні — Б. Рудэнка, Б. Гмыра, Д. Гнацюк, Я. Мірашнічэнка, Н. Ужвій, Ул. Панамарэнка...

— Перада мной адкрыўся новы захапляючы свет. Калі я вяртаўся з тэатра і клаўся спаць, сну не было. Уваскрасалі казачныя сцэны, складаліся ў адно цэлае, зачароўвалі. Кожны спектакль надоўга застаўся ў маім уяўленні.

**Поспехі Юры Барысёнка ў дзіцячай студыі былі такія адчувальныя, што яго парэкамендавалі ў кансерваторыю. Два гады напружанай вучобы. І раптам...**

**— Нечакана прыйшоў да думкі, што опера — гэта не маё прызванне. Захапіўся драмай. Падалося, што гэта больш праўдзівае мастацтва, больш пераканаўчае...**

**Выхаванец кіеўскага тэатральнага інстытута імя Карпенкі-Карага, ён адчуваў унутраную патрэбу гаварыць з гледачом аб тым, што яго хвалявала як чалавека і грамадзяніна.**

**Вінніцкі ўкраінскі музычна-драматычны тэатр. Першыя крокі на прафесійнай сцэне. Малады акцёр пачынае набіраць сілу. Тым часам надышла пара службы ў арміі і новая школа — школа станаўлення характару.**

У 1966 годзе Юрый Барысёнак прыходзіць у Гродзенскі абласны драматычны тэатр.





У ролі прынца Калафа («Прынцэса Турандот»).

Калектыў з вялікай цеплынёй сустрэў Юру. Гэты высокі, стройны і экспансіўны артыст адразу ўсім спадабаўся. Аднак у тэатры мала быць сімпатычным і абаяльным чалавекам, трэба заваяваць аўтарытэт прафесійнымі якасцямі, праявіць сябе на сцэне. І тут Юра, як кажуць, аказаўся на вышыні. Яго першыя сцэнічныя работы звярнулі да сябе ўвагу ўменнем знайсці ў ролі «зерне» вобраза. Рэжысура пачала даручаць яму вялікія і адказныя ролі.

...Паплечнік Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага, камуніст Штанге ў спектаклі «Вогненны мост» Б. Рамашова, інжынер-атамнік Цвяткоў у спектаклі «Чалавек і глобус» В. Лаўрэнцьева, капітан трэцяга рангу Платонаў у спектаклі «Акіян» А. Штэйна, прынц Калаф у спектаклі «Прынцэса Турандот» Гоцы — Шылера і іншыя.

**У Юрыя Барысёнка з'явілася свая творчая тэма — вялікі гуманізм, высакароднасць і дабрата ў самым высокім сэнсе гэтага слова, ён ва ўсёй сваёй творчасці заўсёды жыццялюбівы і аптымістычны, яго героі вядуць нястомную барацьбу з усім тым, што прыносіць людзям зло, яны гатовы ахвяраваць сабою ў імя шчасця іншых...**

У ролі паліткамісара Штанге ў спектаклі «Вогненны мост» Ю. Барысёнак паказаў сябе ўдумлівым акцёрам, якому пад сілу маштабныя сацыяльныя вобразы.

У параўнальна кароткім тэкставым матэрыяле Барысёнку ўдалося знайсці мноства тонкіх нюансаў, з якіх склаўся шматгранны вобраз бальшавіка-чэкіста Штанге.

— Калі я працаваў над роллю, — гаворыць Ю. Барысёнак, — перабіраў у памяці знаёмыя па кіно і літаратуры вобразы салдат ленінскай гвардыі, якія вынеслі на сваіх плячах тры рэвалюцыі, грамадзянскую вайну і самыя цяжкія гады стварэння першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. Натуральна, адчуў адказнасць за стварэнне гэтага вобраза і вельмі хваляваўся...

Трэба сказаць, што акцёрскае «бачанне» камуніста Штанге Ю. Барысёнак увасобіў у жывы, пераканальны і шматгранны вобраз. Мужнасць, унутраная сіла, гарачая адданасць справе рэвалюцыі — усё гэта было надзвычай яркім у выкананні Ю. Барысёнка.

Жорсткія, непрымірымыя інтанацыі ў допыце Генадзя Дубравіна, эмігранта і здрадніка, глыбокая чалавечнасць у адносінах з сябрамі Хамутовым і Ірынай, чэкісцкая празорлівасць і суровая стрыманасць у штодзённых намаганнях былі наглядным сцвярджэннем таго, што гаварыў Ф. Э. Дзяржынскі: «У чэкіста павінны быць халодны розум, гарачае сэрца і чыстыя рукі».

Менавіта такім і прадстаў перад намі Ю. Барысёнак у ролі Штанге.

Творчы ўздым, святочная ўзнёсласць, з якою працаваў Ю. Барысёнак над вобразам сучасніка, дапамагае яму цяпер ужывацца ў ролю рамантычнага паэта-вальнадумца Сірано дэ Бержарака.

**Па сваёй прыродзе Юра Барысёнак — чалавек неўтаймаванай энергіі і «выдаткуе» яе заўсёды шчодра і мэтанакіравана. Нягледзячы на вялікую занятасць у тэатры, ён бывае на прадпрыемствах, ва ўстановах, школах і калгасах. Барысёнак добры дэкламатар. Слухачы заўсёды цёпла сустракаюць яго літаратурна-музычныя канцэрты — «Вялікі трыбун паэзіі — Ул. Маякоўскі», «Нараджэнне песні», кампазіцыі па творах Р. Гамзатава, К. Сіманава.**

**«Амплуа», якое абраў для сябе гэты артыст, — цяжкае, адказнае. Героіка часам можа ператварыцца ў халодную патэтыку, замест пластычнага малюнка, бывае, з'явіцца поза... Калегі па тэатры папярэджваюць маладога таварыша, калі заўважаюць у яго выступленнях такія «выдаткі» захаплення. Ён умее слухаць і прыслухоўвацца да крытычных заўваг. Гэта ніколі не дазволіць яму спакусіцца танным поспехам, захварэць на «прэм'ерства». Юрый Барысёнак надзейны і сапраўды творчы работнік у мастацтве.**

Уважліва назіраючы за яго творчым жыццём, бачыш працэс станаўлення цікавага артыста. Ён нястомна авалодвае тонкасцямі сцэнічнага майстэрства.

**А. СТРУНІН,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР.**

Леанід
ГАЎРЫЛКІН



АПАВЯДАННЕ

# ЛЯСЫ ЗЯЛЁНЫЯ



ІВАН СЯМЁНАВІЧ КРУПЕНЯ, невысокі і ад таго, здавалася, залішне распаўнелы, саскочыў з прыступкі вагона на нізкі перон і твар у твар сутыкнуўся з жанчынай у шапцы з рыжай лісіцы і ў чорным футры пад коцік. І хаця Іван Сямёнавіч пасля добрай вячэры ў рэстаране знаходзіўся ў стане самазадаволенасці і непахіснай самаўпэўненасці, усё ж даволі прыкметна сумеўся, нават разгубіўся.

— Зарына? — ён глядзеў на яе знізу ўверх: жанчына ў чабоціках на высокіх абцасах выдавала вышэй за яго. — Добры вечар!

—Іван? — яна неяк па-вясковаму махнула рукамі ад нечаканага здзіўлення і падала яму руку ў туга нацягнутай скуранай пальчатцы. — Едзеш куды ці праводзіш каго?

— А ты амаль і не змянілася,—не чуў ён яе пытання.

— Сказаў...—пачырванела Зарына.

— Я цябе адразу пазнаў.

— Больш дзесяці год не бачыліся,—усміхнулася. У яе былі маладыя, белыя да бляску зубы.

— Амаль пятнаццаць,—удакладніў Крупеня. Ён не зводзіў вачэй з жанчыны. Яго вельмі ўразіла тое, што яна яшчэ так прыгожа, так маладжава выглядае.

— Ой, што ж гэта мы стаім,—раптам спахапілася яна. — Цягнік хутка адыходзіць.

— Час ёсць,—глянуў ён на круглы гадзіннік, што вісеў над дзвярамі вакзала.

— А ты таксама едзеш?

— Не. Я тут жыву. Гэта я праводзіў свайго шэфа з Мінска. А ты?

— Я еду. Была ў камандзіроўцы. Як гэта я не падумала, што ты можаш тут жыць? Абавязкова знайшла б цябе. Пагаварылі б хаця. Ну дзе ты робіш?—яна сыпала пытаннямі.—Сям'я? Дзеці? Відаць, падраслі, вучацца? Карацей, як жывеш?

— Нядрэнна, нядрэнна,—хваліўся Крупеня. — Асабліва цяпер. Ёсць кватэра. Чатыры пакоі. Другі паверх. Сям'я. Дзеці. Кожнае лета—на поўдзень. Плёхаемся ў марской вадзіцы... Вось так. А дзе ты, Зарына?

У гэты час аб'явілі, што да адыходу цягніка застаецца дзве мінуты...

— Ой, так можна і спазніцца. Прыязджай да мяне ў госці. Пабачыш, як жыву, што раблю, — і калі спачатку гэтае запрашэнне ў яе вырвалася міжвольна, то потым яна паўтарыла яго з большай настойлівасцю. — Праўда, Іван, прыязджай. А я сустрэну цябе... на кані. Паглядзіш, які цудоўны конь у мяне...

— Сапраўды, я даўно не бачыў прыгожых коней,—засмяяўся Крупеня, не ведаючы, што адказаць на запрашэнне. — Ты ў калгасе?

— У лясгасе,—падала яна на развітанне руку і ўжо стоячы на прыступцы, крыкнула:—Прыязджай, Іван. Гэтым жа цягніком. У суботу. Раз'езд Арэшкі. Прыеду сустракаць. Чуеш? Прыеду!..

Цягнік крануўся.

«У ляс-гасе, у ляс-гасе, у ляс-гасе», — нібы выгаворвалі колы на рэйках.

— У лясгасе...—услых сказаў Крупеня.—Гм...

—Ён яшчэ колькі пастаяў на пероне, а потым, засунуўшы рукі глыбока ў кішэні паліто, пайшоў праз тунэль на прывакзальную плошчу. Да яго адразу ж пад'ехала «Волга». Шафёр адчыніў дзверцы і чакаў, пакуль Крупеня сядзе ў машыну. А ён не садзіўся, стаяў, сумны і засяроджаны.

— Іван Сямёнавіч! — паклікаў шафёр.

— Едзь, Віктар!... Я прайдуся...—і праз прывакзальную плошчу скіраваў на шырокі шматлюдны праспект...

Некалі яны вучыліся з Зарынай у адным класе. Доўга ён не звяртаў увагі на дзяўчыну, а ў восьмым класе так закахаўся, што і дня не мог пражыць, каб не пабачыць яе. Яму мала было таго, што яны сядзелі за адной партай, ён кожны раз пасля школы праводзіў яе дамоў— яна жыла ў суседняй вёсцы. Сустракаліся і ў нядзелю. У сасновым лесе, што рос паміж іхнімі вёскамі. І прыгожыя ж мясціны былі ў тым бары! Пасля школы яны марылі разам паступіць у лясны інстытут, а потым жыць у якім глухім лясніцтве і ўпрыгожваць зямлю лясамі, такімі, якім быў іх бор. Але здарылася так, што дарогі іх разышліся. І вось сустрэча.

...Чым бліжэй было да суботы, тым часцей і ўсё з большым хваляваннем ён успамінаў Зарыну, заўважаў, што з нецярплівасцю чакае таго дня, калі трэба будзе ехаць, і ў той жа час вельмі вагаўся, ехаць ці не ехаць. Нават у суботу раніцай ён так і не ведаў, паедзе ці не, а калі да адыходу цягніка засталося не болей гадзіны, ён раптам названіў дамоў, што выязджае ў камандзіроўку.

Поезд спыніўся на лясным раз'ездзе можа на якую мінуту: Іван Сямёнавіч паспеў толькі саскочыць з высокай прыступкі на жвір. Вакол стылі маладыя беразнячкі. Там-сям сярод іх вытыркаліся ў неба цёмна-зялёныя яліны. А далей навокал сінелі лясы. Траву прыхапіла інеем, і ніхто яшчэ па ёй не пралажыў свайго следу. Было незвычайна ціха-ціха, толькі тахкаў на рэйках поезд, хаваючыся за павароткай. І ў гэты час з лесу паказалася падвода. На калёсах сядзела жанчына ў рыжай шапцы і кажушку. Іван Сямёнавіч пайшоў ёй насустрач.

— І не ўпэўнена была, што прыедзеш,—сказала Зарына.—Але, думаю, а раптам...

Ён сеў з ёй побач. Маўчаў, не ведаў, пра што гаварыць. Яна таксама маўчала і толькі вельмі ўжо часта нокала на каня, шлёпала па яго клубах мяккімі лейцамі.

— Дарэмна пугу не ўзяла,—шкадавала яна.

— Даедзем,—сказаў Іван Сямёнавіч. — Калі не вельмі далёка.

— Ды кіламетры чатыры.

Яны ехалі па лясной дарозе, дзе-нідзе парослай кволымі дубчыкамі бярозак. Хутка пачаўся рослы сасоннік.

— Пасляваенны лес,—сказала яна.

— Вялікі.

— На маіх вачах вырас... А якія тут рыжыкі бываюць! І багата, хоць касой касі. Ты любіш салёныя рыжыкі?

— Я ўжо і не памятаю, што гэта такое. Вакол

# НА ПАЧАТКУ

## ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» СЁННЯ І ЗАЎТРА



Паэт Янка Сіпакоў (у цэнтры) прынёс рукапіс новай кнігі, вось і пайшла размова аб ёй з загадчыкам рэдакцыі паэзіі Ул. Паўлавым (злева) і старшым рэдактарам Хв. Чэрнем.

Першыя тамы збораў твораў Кузьмы Чорнага і Якуба Коласа, «Мсціжы» Івана Пташнікава і «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава, вершы Адама Русака і Алеся Гурло ў серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» — гэтыя, а таксама шмат іншых кніжак пайшлі да чытача са сваёй новай візітнай карткай. На вокладцы — назва выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое створана ў рэспубліцы ў сярэдзіне мінулага года. Як ужо відаць з самой назвы, яно павінна прапагандаваць мастацкую літаратуру, даваць жыццё новым творам, перакладам з іншых моваў, сеяць сярод чытачоў добрае, разумнае, вечнае.

Клопатаў у новым выдавецтве сёння шмат. Тут і арганізацыйныя пытанні (толькі нядаўна пераехалі ў асобнае памяшканне), і абмеркаванне рукапісаў, работа з іх аўтарамі — адным словам, усё тое, без чаго нават цяжка ўявіць сабе выдавецкую кухню.

У галоўнага рэдактара Анатоля Кудраўца таксама хапае неадкладных спраў. Але справы справамі, а некалькі слоў пра выдавецтва сказаць можна:

— У апошнія гады асабліва яскрава відаць, як вырасла, узмужнела беларуская літаратура. Умацавліся і яе сувязі з братнімі літаратурамі. Вядома, усё гэта і прывяло да ўзрастання попыту на мастацкія творы ў рэспубліцы.

— Значыць, усё гэта і абумовіла стварэнне ў нас новага, спецыялізаванага выдавецтва?

— Зусім правільна. Бо не толькі абумовіла, але і паставіла перад ім пэўныя задачы. Адна з іх— дзейсная прапаганда твораў беларускіх пісьменнікаў, давядзенне іх да найбольш шырокага кола чытачоў.

— Але ж гэтым займаліся і адпаведныя рэдакцыі ў выдавецтве «Беларусь»?

— Цяпер структура некалькі змянілася. Раней былі толькі тры рэдакцыі: арыгінальнай мастацкай, перакладной і дзіцячай літаратуры. Цяпер жа такіх рэдакцый сем: прозы (загадчык П. Місько), паэзіі (загадчык Ул. Паўлаў), дзіцячай літаратуры для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту (загадчык А. Васілевіч), дзіцячай для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту (загадчык С. Міхальчук), перакладной літаратуры (загадчык Л. Салавей), перавыданняў (загадчык В. Хомчанка) і драматургіі, крытыкі і літаратуразнаўства (в. а. загадчыка П. Шаўцоў).

Ёсць яшчэ і рэдакцыя графічнага і мастацкага афармлення кніг, якую ўзначальвае В. Жыжэнка. Працуе сёння ў выдавецтве 41 рэдактар, не лічачы загадчыкаў рэдакцый і малодшых рэдактараў. А ўсяго — звыш 100 чалавек.

Такая рэарганізацыя плённа сказалася і на выпуску кніг. У мінулым годзе выдавецтвам было выпушчана 170 назваў. Сёлета будзе выпушчана звыш 200, агульны тыраж значна ўзрасце.

Надышоў новы год, а выдавецкія работнікі ўжо жывуць планамі 1974-га. Паступіла шмат заявак, але свет убачаць толькі лепшыя 256 рукапісаў. Пытанні якасці, высокага мастацкага і ідэйнага зместу твораў, як заўсёды, стаяць на першым плане. Кадры падабраны вопытныя, кваліфікаваныя. Амаль усе загадчыкі і рэдактары — члены Саюза пісьменнікаў рэспублікі.

Выдавецтва будзе працягваць выданне серый, якія ўжо добра вядомы чытачу. Гэта «Беларускі раман», «Бібліятэка беларускай прозы», «Бібліятэка беларускай паэзіі», «Бібліятэка беларускай аповесці», «Паэзія народаў СССР», «Бібліятэка беларускай драматургіі», «Казка за казкай».

Ёсць яшчэ адна серыя, якая асабліва палюбілася чытачу. Маецца на ўвазе «Першая кніга паэта». У гэтым годзе ў ёй дэбютуюць сем маладых аўтараў, якія пішуць на беларускай і рускай мовах. Праўда, малюнак Пегаса на вокладцы выглядае неяк штучна, не стасуецца да зместу кніжак. Вось чаму ў выдавецтве ўжо сёння задумваюцца над новым афармленнем гэтай серыі.

Таксама ідзе гаворка і аб паляпшэнні мастацкага ўзроўню гэтых першых зборнікаў, і шмат чаго зроблена. Ёсць дамоўленасць з Саюзам пісьменнікаў рэспублікі, што папярэдне ўсе рукапісы будуць абмяркоўвацца на секцыі паэзіі з удзелам аўтара і выдавецкіх работнікаў. Узрасце і памер саміх кніжак. Мяркуецца таксама абмяркоўваць першыя кніжкі і на секцыі прозы.

А. Кудравец і в. а. загадчыка рэдакцыі драматургіі, крытыкі і літаратуразнаўства П. Шаўцоў якраз праглядалі вокладку новай кніжкі. Гэта «Размова з чытачом» народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна. Афармляе яе мастак Ул. Шолк. Вокладка цікавая. Але, магчыма, будуць яшчэ і іншыя варыянты. Мастак шукае, падбірае неабходнае графічнае гучанне да зборніка.

Кніжка гэтая для І. Шамякіна некалькі незвычайная. Тут ён выступае як публіцыст і літаратуразнаўца. Аб лёсе свайго народа, літаратуры вядзе гаворку вядомы празаік. Зацікавяць чытача і яго выказванні аб М. Горкім і Л. Украінцы, успаміны аб Я. Коласе, а таксама літаратурныя партрэты М. Лынькова, А. Макаёнка, А. Кулакоўскага.

Стварэнне новага выдавецтва пашырыла магчымасці ў выпуску кніг па крытыцы і літаратуразнаўству. Упершыню поўна, асобнай кнігай, выдаецца публіцыстычная спадчына П. Глебкі. «Паэзія барацьбы і перамог» — так называецца гэты зборнік. Лепшыя артыкулы заўчасна памершага С. Гусака ўвойдуць у кнігу «Пафас праўды». Зацікавяць таксама нарысы-партрэты дзеячоў мастацтва і літаратуры, якія стварыў А. Звонак, — «Ма-

нашага горада рыжыкаў мала расце.

Перасхаўшы па карабатаму мастку вузкую з такой празрыстай вадой, якая бывае толькі глыбокай восенню, рачулку, яны апынуліся на шырокай лясной паляне. Тут, здавалася, без усялякага парадку, збіўшыся ў кучку, стаяла некалькі драўляных будынкаў. Адны доўгія, без акон, з высокімі з дзвюх палавін варотамі, не інакш, як хлявы нейкія, а за імі высокая будыніна пад шыферам, кантора лясгаса, а далей некалькі домікаў, у якіх жылі людзі: пад вокнамі гародчыкі з дробненькага шчыкету, за шыбамі кветкі ў гаршчочках, абгорнутых белай паперай, карункавыя занавескі. Ля першага ж доміка Зарына спыніла каня З сянец дзверы вялі адразу ў невялічкі пакойчык, які ўзімку быў і за кухню, і за сталовую. Яна правяла госця ў святліцу з двума вокнамі. У ёй на ўсіх сценах былі самаробныя паліцы з кнігамі. Кнігі былі нават і над канапай, што стаяла ля глухой сцяны. Ля аднаго акна прымасціўся двухтумбавы пісьмовы стол, а ў кутку тэлевізар з шырокім экранам на цыбатых тонкіх ножках.

— Ці не ў бібліятэку ты мяне прывяла? — не стрываў Іван Сямёнавіч.

— Я тут жыву,—паверыла яна ў шчырасць яго здзіўлення.

— Ну, калі ты тут жывеш, то зусім іншая справа, — і ён дастаў з унутранай кішэні пінжака бутэльку каньяку і паставіў яе на стол.

— Ой, і я такую купіла!

Іван Сямёнавіч бачыў, што яна цяпер гаворыць з ім, як гавораць з вельмі жаданымі гасцямі. Яе пачцівасць зусім скоўвала яго, наогул нерашучага чалавека ў адносінах з жанчынамі. І нават яе прызнанне, што яна купіла каньяк, не вельмі падняло ў яго настрой, хаця крыху і абнадзеіла. Праўда, за снеданнем ён асмялеў настолькі, што некалькі разоў клаў руку на спінку крэсла, на якім сядзела Зарына. Але яна кожны раз, як ён гэта рабіў, падхоплівалася і бегла на кухню, дзе яе ў гэты менавіта момант чакала пільная справа. Іван Сямёнавіч адчуў, што ён робіць нешта не тое, і яшчэ болей разгубіўся.

— А навошта табе столькі кніг?—спытаў ён.

— Ведаеш, у нас тут бібліятэка бедненькая, дык, калі працавала над дысертацыяй, многа кніг прыходзілася купляць. Вось і сабралася іх...

— Над дысертацыяй? — перапытаў Іван Сямёнавіч. Ён сам ніколі ў жыцці не думаў пра кар'еру вучонага, і не толькі таму, што звычайна займаў такія пасады, якія давалі яму магчымасць жыць не горш за дацэнтаў, але, як і ўсякі чалавек, які так і не атрымаў у жыцці добрай адукацыі, лічыў, што для вучонай кар'еры трэба мець нейкія асаблівыя здольнасці, якіх ён ніколі ў сабе не заўважаў, хаця школу скончыў амаль на выдатна. І раптам яна, Зарына, якая некалі вечна спісвала ў яго задачкі па трыганаметрыі, напісала дысертацыю.

— Дык ты кандыдат навук?

— Не. Я не абаранялася яшчэ.

— Зарэзалі?—нібы абрадаваўся ён, што яна яшчэ не кандыдат.

— Ды не. Дысертацыю ўхваліла кафедра, рэкамендавала да абароны, стаю вось на чарзе.

— Ніколі не думаў, ніколі не думаў, каб ты— і раптам...—не пераставаў здзіўляцца Іван Сямёнавіч.

— Я таксама ніколі не думала... А потым, калі пачала рабіць у лясгасе, мяне шмат што зацікавіла. Яшчэ калі б сям'я была, дык можа б часу не хапала, а не ўдалося сямейнае жыццё— дык пішы дысертацыю: нечым жа жыць трэба.

— Разышлася з мужам?

— У мяне яго ніколі не было.

— Ніхто не пасватаўся, ці як?—спытаў ён.

— Сваталіся. Але што з таго?

А пасля снедання яна павяла яго паказваць вопытныя дзялянкі лесу. Зарына ішла першай, як экскурсавод, і, азіраючыся на яго, расказвала пра свае эксперыменты, але ён нічога не разумеў і не імкнуўся што-небудзь зразумець, а глядзеў на яе, такую маладую ў сваім захапленні лесам, слухаў, як гучыць яе голас, употайкі пільна прыглядаўся да яе постаці і ўсё больш і больш пераконваўся, што недарэмна прыехаў, што варта было прыехаць.

— Вось, Іван, зірні на гэты лес і на той. Гэты ледзь не на галаву вышэй і наогул зусім іншы. Усе сасонкі як на падбор. Гэта новая парода. Яна павінна расці ўдвая хутчэй звычайнай. Чалавецтва ў сваім развіцці вельмі далёка пайшло наперад, і наш зялёны друг не павінен адставаць. У бліжэйшае стагоддзе мы пакрыем зямлю лясамі зусім не такімі, як цяпер. А хочаш, я пакажу, якую мы вырасцілі асіну. Гібрыднае дрэва. Калі гэты дослед удасца, то... званне акадэміка забяспечана. Вось толькі пра пэўныя вынікі можна будзе гаварыць гадоў праз пяцьдзесят. Нас тады не будзе ўжо на зямлі.. А-а, табе, бачу, не вельмі цікава,—раптам уважліва паглядзела на Крупеню Зарына.

— Хто ведае, што будзе праз паўстагоддзя,— махнуў рукой ён і, заўважыўшы, што ад яго слоў Зарына нібы пакрыўдзілася, папраўіўся.— Я больш слухаю твой голас, а не тое, што ты гаворыш. Прыходзяць усякія ўспаміны пра...

— Ну, голас мой можна слухаць і дома,—не дала яна закончыць яму думку.—Пойдзем...

Ён неяк вінавата ўзяў яе пад руку і далікатна вёў па сцежцы паўз пясчаную раз'езджаную дарогу, а сам тупаў побач, збіваючы іней з верасу. Гаварыў усялякае глупства, маўляў, вельмі рады, што сустрэў яе, што яму сумна жывецца дома, у сям'і, што з жонкай у яго нічога агульнага, яна яго не разумее, адным словам, гаварыў...

Дома яна дастала з верхняй кніжнай паліцы скрутак, здзьмухнула з яго пыл і падала яму.

— Пачытай, пакуль вячэру зраблю.

Гэта былі яго пісьмы, якія ён калісьці пісаў ёй з арміі. Пісаў ён пра сваё неўміручае каханне, пісаў, як яны ўдваіх будуць шчасліва жыць, упрыгожваць зямлю лясамі... У некаторых пісьмах нават сустракаліся вершы. Яго вершы! Сказаць бы сваім саслужыўцам, як бы яны смяяліся..

Хай на шляху нашым
Рэкі і горы,
Сцерпім усё —
Радасць і гора.
Жыць будзем у шчасці
Працай упартай.
Кахання нам хопіць
І творчага гарту!..

— Нлўжо гэта мае вершы?—спытаў Іван Сямёнавіч у Зарыны, калі яна прыйшла з кухні і пачала накрываць на стол.

— Твае. Я некалі сур'ёзна верыла, што ты станеш паэтам. Здавалася, нядрэнна пісаў,—усміхнулася яна яму.

— І ты ўсё гэта хаваеш?

— Хай ляжаць,—сказала яна.—Не перашкаджаюць. Ну, кідай чытаць, падсоўвай сваё крэсла...

— А ведаеш, Зарына, я ўжо не той,—сказаў, падсеўшы да стала, але і сам добра не разумеў, што меў на ўвазе.

— Паспела ўжо заўважыць,—нібы ўпікнула яго Зарына.

За сталом гаворка не вязалася. Зарына, зразумеўшы, што яе навука яго не вельмі цікавіць, больш таго, што ён, нібы свядома, ухіляецца ад гаворкі пра лес, не ведала, пра што з ім гаварыць. Ён таксама адчуў, што гаварыць з Зарынай абы пра што немагчыма, і таксама, апусціўшы вочы ў талерку, зацята маўчаў. Яна спытала ў яго, што ён ведае пра былых аднакласнікаў, расказала сама, пра каго што чула, яшчэ ўспомнілі сваіх настаўнікаў...

— Ну вось, мы і павячэралі,—яна паднялася, уключыла тэлевізар і стала збіраць посуд.

Паказвалі хакей.

Крупеня хутка захапіўся гульнёй і, калі раптам у пакой зайшла Зарына ў сваёй рыжай шапцы з лісіцы і ў кажушку, накінутым на плечы, то ён спачатку нічога і не зразумеў.

— Я, Іван, хакей не люблю, так што глядзі сам тут... Спаць будзеш на канапе. А я пайду да сяброўкі. Захочацца піць—у халадзільніку кампот...

— Нічога, нічога,—прыкметна разгубіўся Крупеня. — Ты прабач, Зарына, што з-за мяне табе столькі турбот.

— Было б з-за чаго хвалявацца,—усміхнулася яна.—Ну спакойнай ночы, Іван!

І—выйшла.

# ДАРОГІ

стак і сучаснік». Змест склалі лепшыя крытычныя артыкулы і рэцэнзіі, што асвятляюць асноўныя напрамкі развіцця беларускай прозы, паэзіі і драматургіі. «Запіскі акцёра» Ц. Сяргейчыка і іншыя кнігі.

Над знешнім выглядам кніг працуюць у рэдакцыі графічнага і мастацкага афармлення. Загадчык яе В. Жыжэнка ахвотна расказвае аб справах. Што ж, тут таксама ёсць цяжкасці, бо не хапае мастацкіх рэдактараў. Цяжкасці, без якіх не абысціся напачатку, але якія не павінны сказвацца на якасці работы, бо, мажліва, афармленне кнігі ў многім уплывае на попыт. А беларускія кнігі сапраўды прыгожыя. Узяць хоць бы новы раман Ул. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», які нядаўна з'явіўся на паліцах кнігарань. Кніжка хутка разыходзіцца, бо яна не толькі цікавая па зместу, але і добра глядзіцца. Над афармленнем яе плённа папрацаваў мастак Г. Грак. Парадуе чытача таксама аповесць А. Савіцкага «І нічога ўзамен», якую афармляў І. Давідовіч. Сваё бачанне казак Пушкіна ў Б. Заборава.

Кожная рэдакцыя ў выдавецтве — тая стартавая пляцоўка, з якой пачынаецца жыццё новай кнігі. Даюць гэтае жыццё ёй людзі, якія вельмі любяць сваю справу, маюць практычны вопыт работы. Напрыклад, рэдакцыя паэзіі. Тут амаль усе супрацоўнікі члены Саюза пісьменнікаў БССР. Загадчык Ул. Паўлаў, старшы рэдактар Хв. Чэрня. Рэдагуюць кнігі таксама паэты Ул. Нядзведскі і І. Калеснік. Кожны сам выдаў па некалькі паэтычных кніжак. Адчуванне паэтычнага слова, добрая тэарэтычная падрыхтоўка — гэтыя якасці вельмі патрэбны пры рабоце над рукапісамі. Сярод аўтараў людзі розныя, як па ўзросту, так і па паэтычнаму стажу. І калі пачаткоўцу часцей за ўсё патрэбны практычныя парады, то з аўтарамі сталымі, вопытнымі не лягчэй. Але тут імкнуцца прыслухацца да голасу паэта, лепей уразумець аўтарскую задуму...

Ул. Паўлаў, Хв. Чэрня якраз тады праглядалі карэктурныя лісты славянскіх балад Я. Сіпакова. Выданне кніжкі плануецца ў першым квартале наступнага года. Аўтар разам з выдавецкімі работнікамі ўносіў неабходныя папраўкі і ўдакладненні. Панавала сардэчная, творчая атмасфера.



У рэдакцыі мастацкага афармлення абмяркоўваюцца ілюстрацыі да новага выдання дылогіі І. Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Злева направа — старшы рэдактар Г. Труханава, мастак Б. Цітовіч, загадчык рэдакцыі В. Жыжэнка і старшы рэдактар Л. Прагін.

— Дарэчы, аўтары да нас часта заходзяць, — гаворыць Ул. Паўлаў. — Разам з Ул. Верамейчыкам вычыталі карэктуру кніжкі «Прыпяць». Выходзіць яна ў серыі «Першая кніга паэта». Аўтар — настаўнік, дырэктар адной са школ на Гомельшчыне. Раней ён выступаў у рэспубліканскім друку. Вершы цікавыя, заўважаецца назіральнасць аўтара над жыццём. Думаецца, што чытач прыхільна сустрэне гэты невялікі зборнічак.

«Бяседа» — гэтым трапным, задушэўным беларускім словам назваў кнігу паэзіі малады паэт С. Законнікаў. Ён друкаваўся ўжо ва універсітэцкіх зборніках, а таксама ў калектыўнай кнізе «Рунь», якая некалькі гадоў назад убачыла свет у названай серыі. Новыя вершы аўтара надзвычай лірычныя. Паэт часта звяртаецца да мінулага, услаўляе гераізм савецкіх людзей. І вядома, вершы аб каханні і дружбе.

У рэдакцыі паэзіі шмат работы. Сёлета плануецца выдаць каля 40 паэтычных кніжак. Ёсць таксама і рэзерв. 60 працэнтаў усіх назваў падрыхтаваны да пачатку года. Першымі ластаўкамі будуць зборнікі Е. Лось «Галінка з яблыкам», А. Бажко «Блакітныя вербы».

Яшчэ адна цікавая кніжачка, якая стане добрым сувенірам. Гэта зборнік вершаў беларускіх паэтаў розных пакаленняў аб дружбе і сяброўстве. Кніжка пад назвай «Братэрства» да поўніць зборнік «Заўсёды з Леніным» і складзе адну касету.

Цікавыя планы і ў астатніх рэдакцыях. Няммала навінак у жанры прозы. Тут і першыя кніжкі маладых аўтараў, і чарговыя зборнікі тых, хто добра зарэкамендаваў сябе дэбютамі некалькі гадоў назад (В. Карамазаў «Па таламу снегу», М. Вышынскі «На павароце», К. Пішчыкава «Адраджэнне» і іншыя), і творы сталых майстроў слова (Р. Сабаленка «Роздум у дарозе», М. Машара «Ішоў дваццаты год»), а таксама літаратурная спадчына.

У партфелі рэдакцыі перакладаў—творы пісьменнікаў братніх саюзных рэспублік, а таксама з краін сацыялістычнай дэмакратыі.

Прыйшоўшы ў кнігарню, наведаўшы бібліятэку, кожны з нас упершыню сустракаецца з той ці іншай кнігай. Гэтая сустрэча заўсёды хвалюе, радуе, абуджае добрыя пачуцці. Нярэдка яна запамінаецца на ўсё жыццё як сустрэча з дарагім госцем, які потым заўсёды жаданы чалавек у тваім доме. Шмат такіх кніг і ў тэматычным плане «Мастацкай літаратуры». Да спадобы чытачам розных узростаў і густаў прыйдуцца чарговыя тамы збораў твораў Я. Коласа і К. Чорнага, двухтомнікі выбранага В. Віткі, М. Гарэцкага, С. Грахоўскага, новыя кнігі ўжо вядомых серый «Беларускі раман», «Бібліятэка беларускай аповесці». Над імі таксама сёння працуюць у выдавецтве. Работа знаходзіцца ў розных стадыях. Правяцца, давoдзяцца да ладу рукапісы, вычытваецца карэктура, падпісваюцца паасобныя кнігі ў друк. Звычайны працэс — без якога не можа быць чарадзейнага томіка з прыемным, знаёмым пахам свежай друкарскай фарбы.

...Надоечы мы зноўку завіталі ў цэнтральную кнігарню. Якраз завезлі новыя кнігі: «Сустрэчы» А. Гардзіцкага, «Падарожжа ў юнацтва» І. Навуменкі, «Сотнікаў. Абеліск». В. Быкава... На вокладцы ўжо знаёмае: «Мастацкая літаратура», 1972. Але пройдзе толькі некалькі дзён, і мы ўбачым навінкі гэтага года. Цяжка сказаць, якая кніжка трапіць на паліцы кнігарань першай. Можа «Бяседа» С. Законнікава, мо «Ранішнія сны» М. Гіляці казка «Рак-вусач» Я. Коласа... Усе гэтыя творы ідуць па розных рэдакцыях. Яны будуць выдадзены ў першым квартале. І не так ужо важна, якая кніга першай трапіць да чытача. Важна і істотна іншае: у нас ёсць літаратура, якую чакае шырокая чытацкая аўдыторыя, у нас ёсць выдавецтва, якое гэтую літаратуру прапагандуе.

А. ВІШНЕЎСКІ.

ста працавалі, стваралі — мы жылі апаратам. Кожную свабодную мінуту — думка аб ім... Мноства праектаў, ідэй, варыянтаў! У такую творчую абстаноўку я да гэтага не трапляў...

Апаратам займаліся яшчэ трое: канструктар-распрацоўшчык Ігар Дэц, галоўны кансультант, доктар медыцынскіх навук Аляксандр Шот і канструктар Міхаіл Падаляк — кіраўнік групы. М. Падаляка і Я. Маісеева Талбузін лічыць сваімі настаўнікамі — яны ж разам працавалі над пультам...

Распрацоўка АШК істотна адрознівалася ад работы над пультам. У медыцыны свае патрабаванні, якія жорстка рэгламентуюць мастацкую фантазію дызайнера: гэта, па-першае, надзейнасць, па-другое — кампактнасць. Надзейнасць, калі гаворка ідзе аб жыцці чалавека, павінна стаць звышнадзейнасцю. Зрэшты, тут асаблівых цяжкасцей не паўстала. Перастрахавацца, у прынцыпе, не так ужо складана. Аўтары ўсіх мадэляў АШК б'юцца над праблемай кампактнасці. Сучасны аперацыйны пакой запоўнены разнастайным абсталяваннем настолькі, што хутка не будзе куды класці хворага... і з гэтай праблемай група М. Падаляка справілася выдатна.

Мысленне дызайнера павінна быць рацыянальным, Талбузіну рацыяналізму не пазычаць — гэта было відаць яшчэ па яго пульце, дзе ён здолеў выключыць з «антрапаполя» дыспетчара ўсё лішняе, неабавязковае. У рабоце ж над АШК імкненне да рацыянальнасці знайшло неабходную глебу.

Талбузін паказвае здымкі разнастайных мадэляў АШК — савецкіх, чэшскіх, амерыканскіх. Наш мінскі АШК, не саступаючы сваім «калегам» у класе (а клас апарата аказвае істотны ўплыў на габарыты), значна выйграе ў кампактнасці. Невялікі і зручны, увесь «пад рукой», ён чамусьці няўлоўна нагадвае пульт. Прыглядаюся — тая ж спакойнасць, «чалавечнасць» ліній, той жа стрымана мяккі настрой.

Зразумела, пульт і АШК — толькі самыя буйныя дызайнерскія распрацоўкі Талбузіна. Ён рабіў яшчэ і эскізы станкоў для Мінскага завода аўтаматычных ліній, і вазы для кветак, і кашпо для ВДНГ у Маскве. Цяпер з таварышамі працуе над афармленнем інтэрната пенсіянераў.

Пра стыль Талбузіна (стыль працы, стыль мыслення) — можна гаварыць упэўнена. Сапраўды дызайнерскі стыль: дакладны, эканомны. Такі, які абапіраецца на функцыю і дазваляе ўбачыць рэч з нечаканага пункту гледжання. Самастойны стыль.

**М. КАЛОМЕНСКІ.**

---

добрым стаўленні да Б. Аракчэева, Л. Дударэнкі, В. Сахненкі, В. Цвірко, У. Стэльмашонка, здаецца, што работы, якія яны паказалі на Усесаюзнай выстаўцы, не самыя прынцыповыя з тых, што былі створаны імі ў апошнія гады. Шкада і таго, што не вельмі багата беларускіх мастакоў «прабілася» праз строгія выстаўкомы. Са скульптараў, напрыклад, толькі трое — С. Вакар, Г. Мурамцаў і В. Палійчук. Графікаў чацвёра — Б. Забораў, А. Паслядовіч, У. Пашчасцеў, Г. Паплаўскі. Канечне, скласці поўнае ўяўленне аб тых працэсах, якія адбываюцца ў беларускай скульптуры і графіцы, па работах толькі гэтых майстроў — цяжкавата.

У складальнікаў выстаўкі было вельмі шмат работы—трэба было прагледзець тысячы і тысячы твораў, адабраць лепшае, прывесці ўсё гэта ў нейкае суладдзе. Зразумела, што не да ўсяго ў іх даходзілі рукі, не пра ўсё яны маглі ведаць. Вось тут, відаць, і павінны былі прыйсці ім на дапамогу рэспубліканскія саюзы мастакоў. Менавіта яны павінны былі клапаціцца пра тое, каб на Усесаюзнай выстаўцы перад усёй нашай краінай мастацтва іх рэспублікі выглядала цікава і грунтоўна, каб тое, што паказвае рэспубліка на гэтай выстаўцы, сапраўды было лепшым, найбольш характэрным і прынцыповым.

Здаецца мне, што наш беларускі саюз мастакоў у гэтым сэнсе быў не зусім «на вышыні». Вось прыклад—пад работамі многіх беларускіх мастакоў нават няма этыкетак. Дробязь! Але—красамоўная.

**А. БЕЛАВУСАЎ.**

---






Паўлюк ПРАНУЗА

## ЖЫЦЦЁ НЕ СПЛАНУЕШ НІКОЛІ...

Жыццё не сплануеш ніколі.
Ідзеш па ім цвёрдай хадой,
Яно то павернецца болем,
То радасцю, то бядой.

Яно — адчувальныя вагі,
Узважыць твой кожны крок,
А як ты згубіў раўнавагу,
Даруе, калі не знарок.

## АХ, ЖАЎРУК!

Ах, жаўрук! Чаму так недарэчы
Раніцою песню ты пачаў,
Над страшэнным болем
чалавечым,
Над слязьмі, што тояцца
ў вачах?

У Хатыні кроў ад жаху стыне,
Бомкаюць сумотныя званы.
Рэха іх — балючы напамінак
Той далёкай лютае вайны.

## КАЛІ Я НА ПРАГУЛКУ ЕДУ

Калі я на прагулку еду,
Ці полем, ці між гонкіх хвой,
Чужога не шукаю следу,
Лыжні я не люблю чужой.

Хаця завея завывае,
Мне радасна, бы юнаку:
І я ўсё роўна сам жадаю
Пракласці след па цаліку.

## ПЕСНЯ

Горы—векавыя абеліскі,
Іх вяршынь і хмара не кране...
Песняй чарнавокая кіргізка
Захапіла у палон мяне.

Хоць матыў і словы не вядомы,
Песня мне, як сонейка, была.
Як пушынку, з сэрца змыла
стому,
Адрасціла крылы, бы ў арла.

І здалося: я — у паднябессі,
Вышай гор у шапках снегавых,
І прывёз я рэха гэтай песні
У свой край да сосен баравых.

## СНЕГ ЗАВІТАЎ...

Снег завітаў, як госць
найлепшы,
Такі вясёлы, малады,
Паэтам тэму даў для вершаў
І запушыў лясы, сады.

На вуліцы дзяўчо, бы казка,
Зірнеш — не адвядзеш вачэй.
Яна адчула снегу ласку
На шчоках, што зары ярчэй.

І ні на кога не зважае.
Задумалася. Мо знарок?
Навокал чысціня такая,
Што боязна зрабіць і крок.

## УСЁ—АД ЦЕПЛЫНІ

Усё — ад цеплыні: і радасць,
І першы малады лісток,
І веснавая квецень саду,
І першы немаўлёнка крок;

І ўсмешка сябра і каханай,
І песні звон, і дружбы лад,
Бо цеплыня — жыццёвы ранак,
Дарога ў светлы далягляд.

---



Гэты здымак зроблены ў аддзеле пісьмаў Беларускага радыё. Пасля доўгіх гадоў разлукі сустрэлася сям'я Багданавых.

# РАЗЛУЧЫЛА ВАЙНА...

Апошні аўторак месяца. У эфіры Беларускага радыё перадача «Іх разлучыла вайна». Голас дыктара: «Сядайце, калі ласка, бліжэй да радыёпрыёмнікаў і рэпрадуктараў. Падрыхтуйце паперу і алоўкі. І калі вы што-небудзь ведаеце аб тых людзях, пра якіх пойдзе размова, запішыце іх імёны, прозвішчы, а потым паведаміце нам».

На рэдакцыйны стол кладуцца канверты. У іх і фотаздымкі дзяцей, даведкі, пажоўклыя лісты, даўно напісаныя родным чалавекам. Усё гэта беражліва захавалі людзі...

У кастрычніку 1966 года ў эфіры Беларускага радыё прагучала першая старонка бюлетэня гэтай перадачы. Назвалі некалькі імёнаў і прозвішчаў. Людзі пачулі, адгукнуліся, у рэдакцыю прыйшло шмат пісьмаў.

Пасля другой і трэцяй перадач у грамадскую прыёмную пачалі прыходзіць наведвальнікі з хвалюючымі словамі: «Я той самы чалавек, якога шукаюць», «Валя Канавалава? — гэта ж мая дачка...», «У мяне на руцэ фашысты выпалілі той нумар, што памятае мой брат...».

У эфіры гучалі перадачы, пералічваліся імёны, прозвішчы. Прыходзілі добрыя, жаданыя весткі, чакаліся сустрэчы блізкіх людзей. Ішлі пісьмы з Прыбалтыкі і Смаленшчыны, з Украіны і Калінінградскай вобласці, з вёсак і гарадоў глыбокага тылу краіны, куды ў вайну былі эвакуіраваны дзеці-сіроты.

Пасля кожнага выпуску павялічваўся стос пісьмаў. А сярод іх усё больш было водгукаў, якія падказвалі родным шляхі да сустрэчы.

Назаўсёды засталіся ў памяці падзеі, якія святам адгукнуліся ў рэдакцыі. Сардэчныя, цікавыя, незабыўныя сустрэчы бацькоў і дзяцей.

Сям'я Валянціны Іосіфаўны Агеевай з Добруша выхавала двух хлопчыкаў. Цяпер стала вядома, што гэта сыны былога афіцэра Савецкай Арміі, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Сустрэча адбылася.

Не забылі ў рэдакцыі, як прыйшоў аднойчы да нас Міхаіл Натанавіч Корзун. А потым... Потым упершыню за трыццаць год гаварыў з дачкой па тэлефоне...

Прагучала 85 выпускаў. Слухачы пачулі расказы пра лёс 1400 сем'яў. Амаль кожны выпуск прыносіў радасць тым, хто доўгія гады чакаў роднага і дарагога сэрцу чалавека.

«Падкідыш», — так пісала пра сябе калісьці Ксенія Кляцкова. А потым сустрэлася з вялікай сям'ёй родных на Віцебшчыне. Даведалася пра трагічную смерць бацькоў у час вайны.

А як узрадавалася сям'я Смірновых з Браншчыны, калі яны пачулі па Беларускаму радыё імя сваёй дачкі і сястры Шуры Смірновай!

У далёкі Чалябінск у вайну было эвакуіравана шмат дзяцей з Беларусі і Прыбалтыкі. Там яны выхоўваліся, там і засталіся працаваць. Прайшлі дзесяткі год. Дзеці сталі дарослымі. Звяртаючыся ўспамінамі ў суровае мінулае, яны шукаюць бацькоў.

У адным з апошніх выпускаў мы папрасілі слухачоў, каб яны падказалі Раісе Міхайлаўне Саўчанка што-небудзь пра яе сваякоў. Прайшоў час. І вось Раіса Міхайлаўна прыехала ў рэдакцыю.

— Я толькі што вярнулася з вёскі Уно Лёзненскага раёна. Бачыла сваю родную бабулю, іншых сваякоў. Цяпер я ведаю, якія пакуты выпалі на долю маёй маці ў вайну. Не змагла вытрымаць яна фашысцкай акупацыі і памерла ў зіму 1944 года.

А на рэдакцыйным стале зноў водгукі, падзякі, новыя просьбы, пісьмы, пісьмы...

...Так заўсёды. Адны ўжо сустрэліся пасля доўгай разлукі. Другія яшчэ шукаюць родных, не пакідаючы надзеі сустрэцца з імі.

У апошні аўторак кожнага месяца яны слухаюць перадачу «Іх разлучыла вайна». Напружана ўслухоўваюцца ў імёны, прозвішчы... А раптам прагучаць сярод іх родныя, доўгачаканыя!

**М. ЦОКАВА.**

---

## ЗА «КРУГЛЫМ СТАЛОМ» «МАЛАДОСЦІ»

Днямі ў рэдакцыі часопіса «Маладосць» праведзены «круглы стол», за якім сабраліся аўтары — журналісты і пісьменнікі, якія пішуць на маладзёжныя тэмы.

Адбылася шчырая гаворка аб тым, чым жывуць сёння юнакі і дзяўчаты, якія іх турботы, духоўныя запатрабаванні, на што ў першую чаргу павінны звярнуць увагу маладыя публіцысты. Было выказана нямала слушных заўваг і прапаноў, якія будуць улічаны ў далейшай рабоце.

## У ШКОЛЬНЫМ МУЗЕІ

На фасадзе гарадской школы-інтэрната ўвагу прыцягвае невялічкая шыльдачка: «Пакой-музей савецка-чэхаслацкай дружбы». Шматлікія дакументы, фотаздымкі, скульптура, кераміка, карціны, сабраныя энтузіястамі — настаўнікамі і вучнямі, знаёмяць наведвальнікаў з жыццём, працай і бытам нашых сяброў-чэхаславакаў, з іх гісторыяй, барацьбой за ўстанаўленне ладу сацыялістычнай дэмакратыі. Асаблівае месца ў стэндах экспазіцыі адведзена Паўднёва-чэшскай вобласці, з якой з даўніх часоў устанавілася моцная дружба працоўных Гомельшчыны. У музеі школы праводзяцца экскурсіі. Пастаяннае шэфства над пакоем-музеем ажыццяўляе Мазырскі краязнаўчы музей.

**М. ГАТОЎКІН.**

## РАДКІ З ПІСЬМАЎ

Народнаму ансамблю песні і танца Рэчыцкага дрэваапрацоўчага камбіната — 25 гадоў. У рэпертуары ансамбля — каля 200 песень савецкіх і замежных кампазітараў, некалькі дзесяткаў танцаў народаў СССР.

**Л. ФРЫД.**

□

Кіраўнікі дамоў культуры і клубаў, самадзейныя артысты Добрушскага раёна пабывалі нядаўна з візітам дружбы ў Чарнігаўскай і Бранскай абласцях.

У сваю чаргу ўкраінцы і расіяне прыехалі ў Добруш на ўрачыстае закрыццё раённага фестывалю мастацкай самадзейнасці, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР.

**А. КУРЛОВІЧ.**

ПРАБЛЕМЫ, МЕРКАВАННІ, РОЗДУМ

**Антаніна ХАРКЕВІЧ,**
навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

# ТЭКСТАЛАГІЧНАЯ ЗАГАДКА

Паколькі рознчытанні занялі 70 машынапісных старонак, усе іх нельга прывесці ў гэтым артыкуле. Возьмем асноўныя, у сувязі з якімі ўзнікаюць спрэчныя пытанні і на якія найбольшую ўвагу звяртаюць даследчыкі творчасці К. Чорнага пры аналізе рамана «Пошукі будучыні». Гэта датычыць масавых сцэн, дзе выступаюць местачкоўцы-сумлічане, і вобразаў фельчара Максіма Грынюка, яго жонкі і сына.

Даследчык творчасці Кузьмы Чорнага А. Адамовіч правільна адзначае, што ў двух «рэдакцыях» «Пошукаў будучыні» ёсць многа групавых сцэн. Вялікае замілаванне да чалавека працы, да родных мясцін укладваў пісьменнік у характарыстыку вяскоўцаў, сумлічан, сярод якіх жывуць Кастусь і Волечка. З цёплай усмешкай апісвае ён некалькі наіўных у сваёй шчырай дабрыце вясковых людзей, якія падпісваюцца пад паперкай фельчара аб хваробе палоннага, падпісваюцца «ахвотна на добрую справу, робячы, як яны думалі, дабро хвораму немцу»... Сумлічане выступаюць на сцэну, калі трэба змалаціць жыта Волечцы, калі яна цяжка захварэла. І заўсёды групавыя сцэны вельмі яркія і каларытныя». (А. Адамовіч. Беларускі раман. Мінск, 1961, стар. 241).

Думка бясспрэчная. Пярэчанні выклікаюць далейшыя разважанні А. Адамовіча, які піша: «Нягледзячы на гэта, пісьменнік ахвяруе імі ў інтарэсах кампазіцыйнай цэласнасці твора. У драматычным творы, які пісаўся на тым жа матэрыяле, магчыма, і да месца былі гэтыя групавыя сцэны. У рамане ж занадта выразна адчуваецца іх ілюстрацыйнасць, а ілюстрацыйнасці К. Чорны стараўся пазбягаць. Больш таго, сцэны гэтыя не толькі не дапамагалі, але і перашкаджалі раскрыццю галоўных вобразаў рамана. Ад таго, што Волечку і Кастуся акружае многа людзей, гатовых у любую хвіліну прыйсці ім на дапамогу, іх жыццё, праца, іх «сталасць» набываюць характар гульні. Знікае тая суровая жыццёвая неабходнасць, якая фарміравала характары гэтых дзяцей. Адчуўшы гэта, пісьменнік адмаўляецца ад мясцін, у якія ён уклаў столькі сэрца». (Там жа, стар. 241).

На жаль, вывад даследчыка не адпавядае тэксталагічным фактам, таксама, як і сцвярджэнне ў адносінах сына і жонкі фельчара. «Не знайшлося сыну фельчара месца ў падзеях Айчыннай вайны, пісьменнік апускае ў апошняй рэдакцыі твора і словы жонкі фельчара, з якіх чытач даведваецца пра Яся. Не спатрэбіўся сын, пісьменнік выкідвае з рамана і вобраз жонкі». (Там жа, стар. 240).

Пасля знаёмства з **першым** аўтографам у нас узнік шэраг пытанняў, якія датычылі зместу рамана. Чаму, напрыклад, К. Чорны, пісьменнік-рэаліст, тонкі псіхолаг, дасканалы знаўца народнага беларускага побыту і нацыянальнага характару, паказаў сваіх герояў у першай частцы рамана ізаляванымі ад навакольнага свету? Ён жа ведаў, што людзі не могуць быць абыякавымі да лёсу чатырнаццацігадовай дзяўчынкі, якая засталася адна, без маці і бацькі!.. А добры, шчыры, вясёлы фельчар Максім Грынюк—хто ён: стары халасцяк ці ўдавец?..

З гэтымі і іншымі, магчыма, наіўнымі пытаннямі я звярнулася да жонкі пісьменніка. І вось што пачула: «Калі раман быў напісаны, Чорны пачаў яго перапісваць...».

Гэта натхніла мяне на далейшыя пошукі. Я звярнулася да ўспамінаў людзей, блізкіх К. Чорнаму. Але спасылкі на перапрацоўку рамана ў іх не знайшла. Пошукі працягваліся некалькі год, да таго часу, пакуль я не пазнаёмілася з дзённікам пісьменніка...

Самога аўтара не задаволіў першы варыянт рамана, і ён пачаў яго перапрацоўваць. Рабіў ён гэта двойчы.

Менавіта так з'явіліся на свет **другі і трэці** аўтографы першага раздзела першай часткі рамана з іх масавымі сцэнамі і амаль поўнай біяграфіяй фельчара. У гэтых двух варыянтах пісьменнік развіў, разгарнуў тое, чаго так не хапае **першаму** аўтографу. Не, не забыліся добрыя, спагадлівыя сумлічане пра лёс адзінокай Волечкі. Увесь час яны не спускаюць з яе вока.

На пытанне Кастуся: «А хто ж табе на жыта ўзараў?» Волечка адказвае: «Я сама». (**У першым** аўтографе). І зусім іншае, больш рэалістычнае, мы чытаем у **трэцім** аўтографе: «Пачала я сама, а кончылі людзі, нашы сумлічане. Прыйшоў адзін дзядзька, Міхал з Клецкай вуліцы, адапхнуў мяне ад плуга і сам араў да цёмнага. А назаўтра я сама яшчэ арала, а на самы канец зноў прыйшлі. От я і ўправілася». (**У другім** аўтографе, як і **ў першым**).

**У першым** аўтографе Кастусь малоціць адзін. (Волечка, з яго парады, займаецца хатнімі справамі). **У другім** і **трэцім** аўтографах з'явіліся на дапамогу сумлічане.

Пасля: «Кастусь толькі і займаўся тым, што зранку малаціў, а надвячоркам укошваў травы коням нанач». **У другім** і **трэцім** аўтографах дапісана: «За тыя дажджыстыя дні добрая палавіна сумлічан пабывала на Волеччыным двары. Цягнуў іх сюды стук цэпа. Хто малоціць у Волечкі. так цегавіта і пільна? З тых дзён Кастусь пачаў уведваць сумлічан—кожнага, хто ён такі, як завецца. Волечка прыбягала да яго ў пуню і казала яму, хто прыходзіць. Першы прыйшоў Марцін Базылькевіч. Ён зазірнуў у пуню і спавагу сказаў:

— А я думаю сабе—хто гэта тут малоціць так у Волечкі?

Пасля прыйшоў Мікола Зязюк. Гэты доўга курыў і глядзеў, і адразу пасля яго пайшла па Сумлічах пагаласка, што ў Нявадавай Волечкі малоціць той вызнанскі падлетак, што хаваў памерлага ў дарозе бацьку. Тады прыйшлі ўтрох, і не так, а з цапамі. Кастусю надакучыла гэтае наглядданне, і ён выйшаў з пуні і ўвайшоў у хату, пакуль яны не пойдуць. А яны сталі на яго месца і пачалі малаціць у тры цапы. Волечка сказала яму:

— Гэта Янук Парыбак, каторы вусаты. А Юстын Адамовіч, стрыжаны. А Зміцрок Калацкі, тонкі і высокі.

Кастусь пачуў стук трох цапоў і збянтэжыўся. З трывогай увайшоў ён у пуню і стаў у дзвярах сам не свой. Яны ўтрох малацілі. На момант яны спыніліся, і высокі Зміцрок сказаў:

— Гэта што мы людзі такія нездагадлівыя! Нам трэба было адразу прыйсці і памалаціць ёй усё жыта і ярыну. Дык ты, хлопча, не рвіся з цэпам. Адпачні. Мы зробім.

Спусціўшы галаву, ён выйшаў на сярэдзіну двара і стаў у одуме. Горкая прыкрасць мучыла яго. А як жа! Ён ужо тут не патрэбен! Яго адапхнулі ад работы! Такі мусіць прыйдзецца выбірацца ў тую страшную дарогу, якое ён так баяўся. Цяпер яму трэба старацца як-небудзь самому пасеяць жыта, пакуль яны не агледзяцца. Гэтая думка давала яму нейкае прасвятленне».

У хуткім часе Волечка цяжка захварэла. (Прастудзілася, калі разам з Кастусём пілавала ў лесе хваёвую сухастоіну). І як толькі фельчар, якога прывозіў Кастусь, пакінуў хату, і Волечка сказала: «Трэба, каб у хаце было зусім-зусім ціха, дык я засну», у **другім** і **трэцім** аўтографах дапісана: «Тут якраз і ўвайшлі ў хату дзве сумлічанкі. Кастусь ужо ведаў іх. Адна Барбара, глухаватая сястра Тодара Хлебчука, а другая Марыля Матылёўская. Стаўшы поплеч у парозе, яны абедзве разам уздыхнулі і, перашкаджаючы адна адной, сталі гаварыць:

— Ляжыць Волечка, божа мой, божа. Я гляджу, нешта фельчар гэты, Максім Грынюк, каля хаты ходзіць. Ці ела хоць яна што?

— Піла і ела, — нецярпліва і неспакойна сказаў Кастусь.

— Пайсці карову падаіць.

— Карова падоена.

— Можа ёй хлеб спячы.

— Хлеб ёсць. І ўсё ёсць, нічога не трэба.

Жанчыны ўздыхнулі, паглядзелі на Волечку і выйшлі з хаты. Праз хвілін пяць увайшло не менш як дзесяць жанчын. Кастусь уныў душой. Ён ледзьве спраўляўся растлумачваць жанчынам, што ў хаце поўны парадак:

— І карова падоена, і хлеб ёсць, і Волечка правіцца, і куры нясуцца, і дровы ёсць...

Пакуль ён тлумачыў, дык і не заўважыў, а толькі пасля агледзеўся, што ўжо і мужчыны ў хаце і жанчын пабольшала. Гэтыя прыйшлі з збанкамі малака, з сушанымі ігрушамі і тварагом. Кастусь маўчаў, спусціўшы галаву і жадаючы толькі аднаго: каб усе яны хутчэй павыходзілі з хаты. Чаго ім усім тут трэба? Яны тады малацілі жыта, але ж ён і сам без іх гэта зрабіў бы. Добра, што хоць ён справіўся без іх пасеяць і дроў навазіць. Яго мучыла рэўнасць; чаго яны так распытваюць пра Волечку; а што з ёю, а чаго яна захварэла, а дзе яна так захаладзілася, а як, а што... Паспрабуй сказаць, дзе і як захаладзілася Волечка! Ён і без іх ласкі прывёз фельчара!».

Аказваецца, местачкоўцы ведаюць, што Кастусь і Волечка спілавалі сухастоіну і прывезлі ў двор. Але ў іх размове з канчаткова збянтэжаным Кастусём і ў парадзе яму прыхаваць «лепш, а то ў пуні з-пад саломы відаць», чуецца шчырасць і сапраўдная чалавечнасць да гэтых адзінокіх дзяцей.

Вялікую цікавасць уяўляе сабой сцэна, у якой сумлічане сабраліся ў хаце Волечкі, каб падзівіцца на палоннага немца, а затым падпісваюць акт аб яго хваробе. Але паколькі тэксталагічны аналіз яе займае 14 машынапісных старонак, тут мы яго не прыводзім.

Вядома, што Кузьма Чорны «быў выдатным майстрам мастацкай дэталі», якая «дапамагае данесці да чытача тое асноўнае, галоўнае, аб чым хацеў сказаць пісьменнік» (М. Лынькоў). Гэтае майстэрства ярка выражана таксама ў рамане «Пошукі будучыні».

У першым варыянце рамана Волечка поіць хворага немца з лыжачкі, а ў другім і трэцім — з кубка. Такая замена дэталей не выпадковая. Яна звязана з усёй рэалістычнай асновай твора. Так, немец хворы, але не настолькі, каб паіць яго з лыжачкі, і пісьменнік, перапрацоўваючы раман, замяняе лыжачку кубкам.

У першым варыянце твора сын Густава Шрэдара носіць імя бацькі. У другім і трэцім варыянтах Чорны называе яго Фрыдрыхам. І гэта таксама не выпадкова. Калі ў немца-бацькі хоць раз зварухнулася сэрца ўдзячнасцю да людзей (за аказаную яму, хвораму, дапамогу ён аддаў нарабаванае на вайне золата Волечцы, аб чым потым праз усё жыццё шкадаваў), дык яго сын не ведае ні ўдзячнасці, ні літасці. Бо гэта немец у новым абліччы, страшным, бесчалавечным. Гэта фашыст. А фашыст горшы за звера. Ён не мае чалавечага сэрца. Таму, трапіўшы ў мясцовасць, дзе ў мінулую вайну быў выратаваны яго бацька, ён не ўспамінае пра дабрату гэтых людзей, а кідае іх у канцлагер і разам з імі дачку Волечкі. І аўтар дае яму новае імя.

А зараз вернемся да вобраза фельчара. **У трэцім аўтографе** К. Чорны дапоўніў вобраз чалавека, які выклікае вялікую сімпатыю, новымі фактамі з яго жыцця. Мы даведваемся, што «гэтаму фельчару, здаецца, не было цяпер больш як сорак год. Але ёсць такія твары, на якіх сталасці больш, як пражытых год. Такі быў твар гэтага фельчара. І разам з тым многа было на яго твары як бы дзіцячых, наіўных рысаў. Ён гаварыў больш чым вымагала першае знаёмства з салдатам».

І далей ён расказвае салдату аб сыне, жонцы, яблыні.

«Прыехаўшы дадому, адразу ў сад... Каб ты ведаў: проста выказаць не магу. Як я толькі быў ажаніўся, дык на памятку аб сваім вяселлі пасадзіў яблыню антонаўку. Дык што ж ты думаеш! Мы з жонкай пастарэлі, у мяне ўжо сын у войску, і пісьмо было, што на фронт яго адпраўляць, і жонка мая стала нездараўчаная, усё хварэе пакрысе, а яблыня антонаўка і нібыта што. З году ў год і аж дагэтуль гэтулькі дае яблык! А ў гэтую восень вельмі ж урадзіла. Аж гнецца ад яблык. Пара ўжо іх пазнімаць».

Калі Кастусь, напалоханы хваробай Волечкі, прымчаў да фельчара і моліць яго безадкладна выехаць, фельчар кажа: «Чаго ты гэтак спалохаўся? Відаць, што ніколі хворых не бачыў». Пасля слоў Кастуся: «Як гэта не бачыў! У мяне бацька на дарозе памёр!» у аўтографе дапісана:

«Фельчар нічога на гэта не адказаў і ўвёў Кастуся ў хату. Гэта быў прыемны і вялікі пакой з маляванаю падлогаю і вазонамі на вокнах, і дзвярыма ў бакоўку, з бакоўкі выйшла высокая і тонкая жанчына і ад добрасці свае пачала гаварыць з Кастусём:

— Хворы хто ў вас? Такім надвор'ем дзіва што захварэць можна. Я гэта па сабе ведаю. Я ўжо многа год хварэю. Калі добрае надвор'е, дык мне і добра. Калі ж так, як сёння, дык кашаль горш і ў вачах цёмна

Фельчар адчыніў шафу і моўчкі корпаўся ў ёй. Жанчына пакашляла і выйшла ў бакоўку».

Пасля: «фельчар сказаў:

— Папаўдні зусім распагодзіцца» дапісана: «Так што ты, Анэта, — ён гаварыў у бакоўку да жанчыны, — як толькі стане ясна і макрата абвяне, — не сядзі ў хаце, а выходзь на двор. Ідзі ў сад на чыстае паветра, адно адзявайся цёпла...

З бледнай усмешкай жанчына выглянула з бакоўкі і адказала яму:

— Дадому ты не спяшайся, калі зноў раздажджыцца. Не мокні. Так што я і абед табе прыгатую к канцу дня. Я яшчэ з звару павідла з антонавак і схаджу на пошту, а можа сёння якраз будзе пісьмо ад Яся.

Праз хвілін тры Кастусь з фельчарам выехалі».

І калі пагадзіцца з тым, што «ў творах К. Чорнага ўсё мае сваё развіццё» (А. Адамовіч), то можна ўявіць сабе, якое месца ў далейшым у рамане занялі б вобразы сына і жонкі фельчара, калі б пісьменнік перапісаў раман да канца!

І калі ўлічыць, што К. Чорны гаварыў: «Пішы, як пішацца, каб выказаць тое, што маеш сказаць», і сам «...пісаў, як пісалася, а потым усё перарабляў і перапісваў нанава, так што ад першага варыянту і следу не заставалася» (В. Вітка), то можам сабе ўявіць, як узбагаціўся б гэты выдатны твор, калі б праца над ім была завершана!

Але «няўмольная цяжкая хвароба ўпарта падточвала сілы і здароўе пісьменніка. І трэба было мець велізарную волю, каб думаць не пра хваробу, а пра жыццярадасных, здаровых і вясёлых людзей — сваіх любімых герояў» (В. Вітка).

Тое, што К. Чорны пачаў перапісваць раман, дакладна вядома з яго «Дзённіка».

Цяжка хворы пісьменнік, калі яму стала трохі лепш, 2 ліпеня 1944 года запісаў: «А яшчэ шэсць месяцаў таму, калі пачынаў перапісваць «Пошукі будучыні», мне была пакута выпісваць роўна загаловак і першы радок».

Такім чынам, раман «Пошукі будучыні» К. Чорны пачаў перапрацоўваць у студзені 1944 года. А гэта значыць, што **другі і трэці аўтографы ўяўляюць сабой не «перадгісторыю» рамана, як сцвярджаюць А. Адамовіч і М. Тычына, а далейшую, на жаль, няскончаную працу над ім.**

Параўнальны аналіз другога і трэцяга аўтографаў дае магчымасць меркаваць аб іх паслядоўнасці ў напісанні.

Абодва яны ўяўляюць сабой далейшую працу пісьменніка па ўдасканаленню зместу, мовы, вобразаў. У асобных месцах тэкст другога і трэцяга аўтографаў супадае з першым. І яны маюць агульныя праўкі.

Аднак большасць правак, пераважна лексічнага характару, унесены толькі ў трэці аўтограф. І менавіта ў трэцім аўтографе даецца больш разгорнутая характарыстыка вобразаў фельчара і яго сям'і. Дапісваюцца новыя сцэны, якіх няма ні ў першым, ні ў другім аўтографах (пачатак знаёмства Волечкі з Кастусём, прыход сталасці і першага пачуцця).

Усё гэта дае магчымасць меркаваць, што трэці варыянт — гэта канчатковая, але, паўтараем, не завершаная дапрацоўка твора.

У адпаведнасці з прынцыпамі тэксталогіі мы павінны б былі ўзяць за асноўны тэкст «апошні па часу слой аўтарскай праўкі тэксту» (Я. Прохараў), або апошні рукапіс. У дадзеным выпадку —трэці аўтограф. Аднак, паколькі праца над перапрацоўкай рамана не была даведзена аўтарам да канца, і ў выніку гэтага змены, унесеныя ім у змест твора, не атрымалі свайго лагічнага завяршэння ў наступных раздзелах рамана, — **за асноўны тэкст бяром першы, закончаны аўтограф. А другі і трэці разглядаем як далейшыя рэдакцыі твора.**

У шостым томе збору твораў Кузьмы Чорнага ў 8-мі тамах, дзе змешчаны раман «Пошукі будучыні», даецца падрабязны тэксталагічны аналіз гэтых рэдакцый.

Такім чынам, Кузьма Чорны ў новым варыянце рамана стварае больш шырокі грамадскі фон, уводзіць новых герояў, паглыбляе іх вобразы, напаўняе цеплынёй свайго вялікага сэрца. І раман у апошняй рэдакцыі набывае яшчэ больш глыбокі філасофска-псіхалагічны сэнс.

**Калектыў Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа глыбока смуткуе з прычыны смерці аднаго з заснавальнікаў тэатра, заслужанага артыста БССР Сяльскага Сцяпана Уладзіміравіча і выказвае шчырае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**

# ПАР-НАС-КІЯ




*АВОХЦІ МНЕ!*

**Мікола ВЯРШЫНІН**

### ПРЫНЦЫП ТВОРЧАСЦІ

**(Парада паэту)**

**Пішы, як маўчаць немагчыма,**
**І правіла цвёрда трымайся:**
**Паэзія — нібы дзяўчына;**
**Не любіш — дык не займайся!**

### КАНЕЦ ЦЯРПЕННЮ ЁСЦЬ І Ў ЖОНКІ

**Спакойная была, злавала мала,**
**Ад аднаго кідалася ў амбіцыю:**
**Калі муж піў, дык так яго ганяла,**
**Што мог схавацца толькі у... міліцыі.**

**М. ДУБОЎСКІ**

## ТАКТ І ТАКТЫКА

Сустрэліся ў магазіне дзве знаёмыя:

— Як жывеш, Ганначка? Як здароўечка?

— Дзякуй, Манечка. Пакуль бог мілуе.

— А муж твой як маецца? Я толькі тады і бачыла яго — на вяселлі. Спадабаўся мне: такі ветлівы, тактоўны! Адразу відаць адукаванага чалавека... Дзверы адчыняе, усіх вітае, усім кланяецца... кланяецца...

— Ага, кланяецца... І я, дарагая, спачатку так думала, а потым...

— Што, пачаў грубіяніць табе?

— Ды не. Мы развяліся... А наконт таго, што кланяецца — то кланяецца і цяпер, усім ручкі паціскае. Закончаны падхалім. Не можа інačай...

*ВО... РАЗАМ У ДУДКУ ЗАІГРАЛІ...*

## КРУЦІМ СВАІМІ НАГАМІ...

...Как будто кто сослал
их всех на каторгу.
**Вертеть ногами**
**Сей шар земли.**

Сяргей Ясенін. «Пугачев».

...шар обожжённый
тяжко повертывается
на оси.
**Мы его вертим**
**своими ногами...**

Навум Кіслік.
«Первая молодость—
первая рота».

**Адзін—бландзін, другі—брунет,**
**І кожны з іх пясняр-паэт.**
**Дальбог, праверце гэта самі,**
**Яны ж падобныя часамі...**

**С. КОЙДАНАЎСКІ.**

*МЯНЕ Ж САМОГА ВЫ ПУСЦІЦЕ*

# ПАД САМАКРЫТЫЧНЫМ ПАГЛЯДАМ

**Крытык — заўсёды крытык. Гэтага ад яго не адбярэш. Нават уласныя мастацкія творы (а апошнім часам сярод крытыкаў пайшла мода грашыць вершамі і прозай) ён здольны разглядаць у крытычным асвятленні. Вось якія крытычныя нататкі маглі б напісаць на свае творы М. БАРСТОК і У. ЮРЭВІЧ...**

## ПАЎНАКРОЎНАСЦЬ НАВАТАРСТВА

*Марына БАРСТОК*

Безумоўна, дадзены непаўторны і унікальны верш Марыны Барсток выкліканы патрабаваннямі часу: нічога не ўпускаць з-пад паэтычнай увагі. Не гонячыся за навізной формы, аўтар пашырае ідэйны і тэматычны дыяпазон, уладна прад'яўляе навізну праблематыкі. З першага ж радка яна адчуваецца ў ціхіх, задушэўных словах:

**Люблю я батанічны сад.**

Гэтае інтымнае прызнанне без публіцыстыкі, рыторыкі і штучнага пафасу, бадай, упершыню прагучала ў нашай літаратуры шчыра і кранальна. Узаемаадносіны рэалістычнага і рамантычнага пачаткаў з'яднаны адной думкай і хвалююць нас сілай лірычнага пачуцця. Усеабдымна і шматколерна малюецца знешні воблік нашага дарагога кутка з яго эмацыянальным і маральным здароўем:

**Ён чараўнічы пры любой**
**пагодзе.**

Такая эстэтычная ацэнка з'явы, выказаная з высокім паэтычным майстэрствам і ўсхваляванасцю, прымае абагульняючыя памеры.

Яркія сродкі вобразнага адлюстравання пазначаны як адзінствам часу, так і адзінствам формы і зместу. Таму найбольш важным паваротным момантам, істотнай адзнакай твора нам уяўляецца новы спосаб бачання свету:

**«Бывайце!»—ім сказала лета**
**І паляцела даганяць вясну.**

Глыбока будзе памыляцца той, хто ўгледзіць у гэтых радках некаторую часавую супярэчнасць, паколькі ступені мастацкай якасці дапускаюць «цякучасць» светаўспрымання аўтара. І нельга не верыць паэту, калі ён горача ўсклікае:

**Не прыйдзе гід—сама іх павяду.**

Тут — цвёрдая эстэтычная пазіцыя аўтара, яго самаадданасць і, калі хочаце, самаахвярнасць, бо абысці з групай экскурсантаў усе куткі Батсаду—задача і складаная, і адказная.

У канцы знойдзена глыбокае філасофскае асэнсаванне раслiннага свету. Пры гэтым агульнае ўдала спалучаецца з індывідуальным. Усяго хапае шматтысячным прадстаўнікам сусветнай флоры, «а нам кагосьці нестае заўжды».

Такім чынам, твор чаруе нас сваёй свежасцю і размахам. У ім на вельмі моцнай народнай аснове моваю паэзіі раскрыта дыялектыка жыцця. А таму ён арганічна ўключаецца не толькі ў скарбніцу нашае роднае літаратуры, але і ў сусветны літаратурны працэс.

## ТВОРЧЫЯ ПАТЭНЦЫІ

*Уладзімір ЮРЭВІЧ*

Ці варта згадваць, што змабілізаванасць і ёмістасць думкі ў творы сцвярджаецца яго агульнай высновай. Гэтае палажэнне як нельга лепш стасуецца да ўсіх памянёных ніжэй апавяданняў. Заглыбленне пільным вокам у іх вартасці дае падставу гаварыць аб сінтэзаванасці думак і пачуццяў нашага падрастаючага пакалення. Адметнасць мыслення і натуральнасць абыходжання характэрны для ўсіх дзейных асоб.

Юрэвічаўскага Тараску (гл. «Тараскавы турботы».—**У. Ю.**), да прыкладу, палохае тое патаемнае, ці больш правільна будзе сказаць — непазнанае, што хаваецца ў кучы звычайных скрынак. Але ў поўнай узгодненасці з гісторыяй хлопчык не думае пра дамавіка, а шукае цвік, каб прымацаваць прапелер самалёта. Найбольш поўна ён раскрываецца як бы ў трох планах — ва ўменні правільна карыстацца анучкай, у бескарыслівай дапамозе Соні і ў пераадоленні вільчыка. Унікненне Тараскі ў бачанае настолькі важкае, а шырыня разумення настолькі значная, што ён робіць найтоншыя рухі, імкнучыся не адарвацца ад рэальнасці ў вобразе бабінай пуні. І калі хлапчук у пахапку ўсё ж адарваўся ад названай рэальнасці, яго скіраванасць у крапіву носіць зусім самастойны характар, бо дзесяткамі год аддзелена ад лынькоўскага Янкі-парашутыста.

Нам не патрэбны тлумач, каб зразумець усю гжэчнасць высакародства героя, калі ён праз фортку лезе па ключы дзядзькі Ахрэма. Пісьменнік, гаворачы яго ж словамі, апрыёрна трапіў у тое адзінае рэчышча, па якому струменіць унутраны рух апавядання «Чайка-гультайка». Тут на дзіва тонка ўсё асветлена цэнтральным дзеяннем, а плынь моцна зрастаецца з канцэпцыяй.

Безумоўна, тады-сяды наш герой ідзе ўжо карыстаным шляхам, а таму яго яшчэ нельга назваць наслуханым, начытаным, нагледжаным (гл. «Чорную пляму». — **У. Ю.**). Такі яго паказ — не палярызацыя, не адсартоўванне плюсаў і мінусаў, а жывая тканіна рэальнасці ва ўсім багацці праяў. Адсюль не цяжка пераканацца, што вядучая ідэя зборніка, нібы зыркімі праменнямі, сцісла, амаль лапідарна адцяняе патэнцыяльную энергію характараў. Што датычыць ценявых бакоў (зноў гл. «Чорную пляму». — **У. Ю.**), дык нішто не вымагае лемантаваць: стылявая цэльнасць тут не парушана.

Так свежае прачытанне пераконвае ў грунтоўнасці абагульненняў у пасылках. Адсюль, скажам пашапкам, напрошваецца афарыстычная выснова: аўтар пружыністай рукой уліў жывы струмень у эстэтычна-стылявое ўзнаўленне шматгалосся жыцця.

**Георгій ЮРЧАНКА.**

**Мал. Л. МУРАШКІ.**







**Марцін КОЎЗКІ**

## ФРАЗЫ

□ Падглядзеў у замочную шчыліну, як сусед падглядае ў замочную шчыліну.

□ Хочаш дасягнуць немагчымага? Укусі сябе за локаць.

□ Майстар балансу: адарваўся ад зямлі і не вісіць у паветры.

□ Прагнуў прызнання: першы сказаў глупства, якое цяпер паўтараюць усе.

□ Д'ябальскае насланнё — думаць, што другі жыве, як бог.

□ Нашы хібы вынікаюць з вартасцей... якіх мы не маем.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 05504